№ 17 (854) 7 мая 2014

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

Minsk2014

9 мая ў Мінску стартуе чэмпіянат свету па хакеі. **Старонкі 2,9.**

# Хакей падчас вайны



## Беларуска з Краматорска: «Я баюся»

Старонкі 2, 6.

# Хакей падчас вайны

**9 мая ў Мінску стартуе Чэмпіянат свету па хакеі.**

Мінск упершыню прымае такое вялікае мерапрыемства. Горад доўга рыхтаваўся да чэмпіянату. З'явілася шмат прыемныхноваўвядзенняў. Адрамантавалі дарогі. З'явіліся новыя гатэлі. На вуліцах — сучасныя шыльды па-беларуску і англійску.

Але ў палітычным плане здарыліся ганебныя рэчы. Горад зачысцілі ад апазіцыі. Па стане на аўторак 18 чалавек знаходзяцца на Акрэсціна. Штодня гэтая лічба павялічваецца. Відавочна, што сусветныя журналісты не абмінуць гэтую тэму ў сваіх публікацыях з Мінска. Як і тэму палітвязняў.

Афіцыйная Беларусь у гэтым плане страціла магчымасць паказаць сябе ў добрым святле ў свеце. Сумную пячатку «дыктатуры» такімі дзеяннямі не змыеш.

Былі спадзевы, што за хакеем будзе сачыць, калі не ўвесь свет, дык прынамсі Еўропа. Але падзеі ва Украіне відавочна будуць займаць першае месца. Калі Еўропа стаіць на парозе новай вайны, тут ужо не да хакея. Дый якое тут «свята», калі ў суседа такая бяда.

Расійскія фанаты хацелі правесці на 9 мая ў Мінску «Рускі марш», але мінская міліцыя мякка намякнула на яго непажаданасць.

Што датычыць спартовага складніка, то чэмпіянат Мінск прыме ў той час, калі ў НХЛ толькі пачынаюцца зарубы за Кубак Стэнлі (каляндар ссунуты на два тыдні праз паўзу для Алімпіяды). Таму зорак сусветнай велічыні прыедзе вобмаль. Хаця гэта зусім не значыць, што хакей будзе кепскім.

Не, натуральна, Мінск чакаюць выдатныя гульні. Унутраныя канфлікты, перажыванні, радасці і расчараванні. Як на любых буйных спаборніцтвах, без гэтага ніяк. Каб яшчэ не гэтая змазанасць палітыкай.

**Зміцер Панкавец**



**Хто арыштаваны перад чэмпіянатам свету?**

**Зміцер Дашкевіч**, былы палітвязень. Затрыманы 24 красавіка. Арышт — 25 сутак

**Аляксандр Францкевіч**, былы палітвязень. Затрыманы 25 красавіка — 25 сутак

**Дзяніс Карноў**, бізнэсовец Затрыманы 26 красавіка — 20 сутак

**Аляксандр Курбацкі**. Затрыманы 26 красавіка — 20 сутак

**Мікалай Колас**. Затрыманы 26 красавіка — 15 сутак

**Леанід Смоўж**, машыніст са Стоўбцаў. Затрыманы 26 красавіка — 20 сутак

**Юрый Рубцоў**, шафёр з Гомеля. Затрыманы 26 красавіка — 25 сутак

**Уладзімір Новікаў**. Затрыманы 26 красавіка — 15 сутак

**Аляксандр Стукін**. Затрыманы 26 красавіка — 20 сутак

**Валер Тамілін**. Затрыманы 26 красавіка — 20 сутак

**Мікалай Дземідзенка**. Затрыманы 5 мая — 20 сутак

**Міхаіл Мускі**. Затрыманы 5 мая — 20 сутак

**Андрусь Цянюта**, лідар Маладага Фронту. Затрыманы 5 мая — 10 сутак

**Аляксандр Палякоў**. Затрыманы 5 мая. Прысуд яшчэ не абвешчаны

Ілля Валавік, Сяргей Пазняк, Кірыла Ермаловіч, Кірыла Клыкаў (фанаты ФК «Партызан»). Затрыманыя 6 мая. Усе — па 10 сутак

## Што адбываецца ва Украіне

Самыя страшныя падзеі здарыліся 2 мая. Тады ў Адэсе прарасійскія штурмавікі напалі на шэсце прыхільнікаў адзінства Украіны — у ім удзельнічалі пераважна футбольныя фанаты. Прычым штурмавікі з-за спінаў міліцыі стралялі з карабінаў і пісталетаў, забілі некалькі чалавек. Гэта выклікала буру. Дэманстранты не толькі разагналі штурмавікоў, але і спалілі іх палатачны гарадок на Куліковым полі.

Штурмавікі ўкрыліся ў захопленым імі Палацы прафсаюзаў. У ім пачаўся магутны пажар — магчыма, успыхнулі запасы кактэйляў Молатава. У выніку загінулі дзясяткі чалавек.

Гэтая трагедыя паказала, што Украіну падвялі да краю прорвы. Расія штурхае краіну да грамадзянскай вайны.

Баевікі з аўтаматамі, гранатамётамі і нават пераноснымі зенітна-ракетнымі комплексамі занялі шмат якія гарады Данецкай і Луганскай абласцей. Зброі ў іх — нямерана. Яны абвесцілі аб правядзенні 11 мая «рэферэндуму» аб утварэнні Луганскай і Данецкай рэспублік. Не маюць ні спісаў выбарцаў, ні закона пра рэферэндум, але ж абвясцілі. Гэтаксама з бухты-барахты прайшло два месяцы таму і рэферэндум у Крыме.

Працягваецца антытэрарыстычная аперацыя. Украінскія вайскоўцы знішчылі каля 30 баевікоў.

Харкаў, Днепрапятроўск і Адэса пакуль адгарадзіліся ад Данбаса блок-пастамі. Але ніхто не мае сумневу, што за «рэферэндумам» будзе ўтварэнне «армій», якія атрымаюць з усходу столькі зброі, колькі захочуць. І пэўныя сілы будуць штурхаць іх да «вызваленчага паходу».

Расійскія СМІ аперуюць новым тэрмінам: «Наваросія». Лідар сепаратыстаў Алег Цароў паведаміў, што новая дзяржава можа быць заснавана на тэрыторыі Адэскай, Мікалаеўскай, Херсонскай, Запарожскай, Данецкай, Луганскай, Харкаўскай і Днепрапятроўскай абласцей.

Будучаму прэзідэнту Украіны не пазайздросціш. Яму прыйдзецца быць не толькі антыкрызісным менеджарам, але і галоўнакамандуючым ваеннага часу.

**Мікола Бугай**

**Парашэнка нарошчвае адрыў**

Калі б выбары ва Украіне адбыліся сёння, перамог бы на іх мільярдэр Пятро Парашэнка. Ён набірае 47% галасоў. Ад яго далёка адстаюць Юлія Цімашэнка і Сяргей Цігіпка. Лідар «Правага сектара» Яраш набірае ўсяго 1,5% галасоў.

На фоне расійскай агрэсіі рэзка ўпала папулярнасць Партыі рэгіёнаў. За яе гатовыя галасаваць менш за 5% выбарцаў. Столькі ж хацелі вяртання ва ўладу Віктара Януковіча.

Узненавідзелі ўкраінцы і Уладзіміра Пуціна. Да яго цяпер негатыўна ставяцца 76% апытаных сацыялагічным цэнтрам імя Разумкова.

Адзіным выключэннем стаў Данбас. Тут грамадская думка падзяляецца прыкладна 50 на 50 між прыхільнікамі далучэння да Расіі і Пуціна ды адзінства Украіны і ўкраінскіх палітыкаў.

## Апытанні на nn.by

**Што павінна зрабіць Беларусь у выпадку, калі Расія вырашыць атакаваць Украіну праз беларускую тэрыторыю?**

| | | |
|---|---|---|
| Ужыць сілу для абароны нашага суверэнітэту | 1704 | 72% |
| Дзейнічаць на баку Расіі | 70 | 3% |
| Не ўмешвацца | 208 | 9% |
| Такога не будзе | 329 | 14% |
| Падтрымаю любое рашэнне Лукашэнкі | 57 | 2% |

Прагаласавала 2368 чалавек

## Самае чытанае за 23 красавіка — 6 мая

1 Аперацыя ўкраінскай арміі ў Славянску ФОТА, ВІДЭА

2 Украінскія ультрас разграмілі лагер прарасійскіх штурмавікоў у Адэсе. 46 чалавек загінула

3 У Дар'і Шманай, што сядзела між дарадцамі Лукашэнкі, ёсць цікавая старонка Укантакце

4 У Мінску прайшоў «Чарнобыльскі шлях» ФОТА, ВІДЭА

5 Новая дзяўчына з атачэння Лукашэнкі — пераможца конкурсу «Каралева Вясна»

6 Як правільна камунікаваць з сябрамі і сваякамі з Расеі (парады псіхолага)

7 Козік: Дайце нам свабодна жыць, развівацца

8 Прабежка рускіх нацыяналістаў у Мінску сабрала 40 чалавек

9 Час Пазняка

10 Абраная «Міс Беларусь»: Вікторыя Міганович са Смаргоні ФОТЫ

# Адкуль пайшла «георгіеўская стужка»?

Яе масавае распаўсюджванне пачалося пры Пуціну. **Для чаго?**

Савецкі сцяг? Але ніхто не хоча вяртацца ў «савок». Расійскі трыкалор? Але ён чужы іншым народам. Для адраджэння новай імперыі патрэбны быў сімвал.

**Раздача стужак пачалася ў 2005-м**

А што аб'ядноўвае народы былой імперыі? Каб не талоны на мяса, не Гулаг, не разбураныя цэрквы? Так, супольная перамога над нацызмам.

«Фашысты будучыні будуць называць сябе антыфашыстамі», — пісаў Чэрчыль. Так і сталася.


Георгіеўскімі стужкамі адзначаюць цяпер сябе баевікі.


**У Каўнасе на «Мерседэсе» з георгіеўскай стужкай выдрапалі «Крым наш»**

А з другога боку — «Літва тоже». Уладальнік, напэўна, моцна пашкадаваў пра сваю стужку.
Літоўцы савецкую акупацыю прыроўніваюць да гітлераўскай.


**Кішынёў**

Грамадскі рух «Радзіма — Еўразійскі саюз» правёў акцыю «Георгіеўская стужка» і ў Кішынёве. Яны пранеслі па горадзе стужку даўжынёй каля 200 метраў.

Акцыю «Георгіеўская стужка» распачала ў 2005-м, на другім годзе другога тэрміна Пуціна, расійская арганізацыя «Студэнцкая абшчына» пры падтрымцы ўрада Масквы і РІА «Новости». З тых часоў масавая раздача стужак праводзіцца штогод амаль на ўсёй тэрыторыі былога СССР. Таксама стужкі рассылаюцца ва ўсе расійскія пасольствы — таму геаграфія стужак ахоплівае практычна ўвесь зямны шар.

**Паласаты легіён**

У апошнія гады перад Днём Перамогі і ў Беларусі з'яўляецца шмат чорна-жоўтых георгіеўскіх стужак. Іх чапляюць на аўтамабілі і нават на ашыйнікі сабак. Бо стужкі масава раздаюць — на вуліцах, у крамах, на аўтазапраўках.

**Тролі ў інтэрнэце**

Актыўная праца ідзе і ў інтэрнэце. На любы допіс пра недарэчнасць георгіеўскіх стужак прыходзяць дзясяткі злосных каментароў у адказ. У сеціве працуюць спецыяльныя прапагандысцкія брыгады.

**Чаму георгіеўская?**

Насамрэч, георгіеўская стужка мае вельмі ўскоснае дачыненне да Другой сусветнай вайны. Георгіеўская стужка называецца так, бо служыла стужкай да ордэна Святога Георгія, заснаванага ў 1769 годзе Кацярынай II. Ордэн быў найвышэйшай вайсковай узнагародай Расійскай Імперыі, але быў скасаваны саветамі ў 1917 годзе і адноўлены ў Расіі ў 1992-м.

Яна вярнулася на вайсковыя ўзнагароды ў 1943 годзе ў якасці ленты да ордэна Славы. У 1945-м такая самая стужка з'явілася на медалі «За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гг.» (амаль 15 мільёнаў узнагароджаных). Аднак стужка мела іншую назву — «гвардзейская».

**Трыумфальнае вяртанне**

Гвардзейская стужка выкарыстоўвалася ў СССР у асноўным для святочнага дэкору. Яе можна сустрэць на савецкіх паштоўках розных гадоў. Але «георгіеўскай» — адкрытая адсылка да імперскай гісторыі — яе тады ніхто не называў.

**Памылка ці не?**

Чаму «ўваскросла» георгіеўская, а не гвардзейская стужка, не могуць уцямна патлумачыць нават арганізатары акцыі. Супрацоўніца расійскай грамадскай кампаніі «Георгіеўская стужка» Алена (якая, на жаль, адмовілася назваць сваё прозвішча) расплывіста тлумачыла, што чорна-залатая стужка спрадвечна называлася георгіеўскай.

Заўвагі пра адмену ордэна Святога Георгія ў 1917 годзе і карэктнасць прымянення тэрміна «гвардзейская стужка» ў дачыненні да перыяду ВАВ раздражнілі Алену: «Я не гісторык. Калі вам трэба нейкія гістарычныя факты, звярніцеся да гістарычнай літаратуры. Але ордэн Перамогі быў на георгіеўскай стужцы».

Алена мела на ўвазе найвышэйшы ордэн СССР «Перамога», якім узнагародзілі маршалаў, генералаў і генералісімуса. Але ж напраўдзе стужка ордэна «Перамога» была шасціколернай, і пераважаў чырвоны. А вось ужо юбілейны медаль «60 гадоў Перамогі ў ВАВ 1941—1945», заснаваны ў адзін год з акцыяй «Георгіеўская стужка», мае выяву ордэна «Перамога» і гвардзейскую стужку на краях чырвонай калодкі.

Аднак наўрад ці назвы стужак ненаўмысна пераблыталі. У кодэксе акцыі «Георгіеўская стужка» напісана, што мэтай акцыі ёсць «стварэнне сімвала свята — Дня Перамогі».

**Стужка замест сцяга**

Такім чынам пуцінскі рэжым стварыў новы ўніверсальны сімвал. Ён нібыта мае дачыненне да вайны — у якой найбольшыя ахвяры панеслі, дарэчы, беларусы, украінцы, палякі і яўрэі, але ў той самы час ён мае адсылку і да часоў Расійскай Імперыі. Такі траянскі конь. Не ўсе тую задумку зразумелі.

Вешалі георгіеўскія стужкі — і вешалі. Мала хто надаваў таму палітычнае значэнне. Але тут здарыліся падзеі ва Украіне. Расія адхапіла Крым, а цяпер хоча яшчэ і Адэсу з Данецкам. І вось тут георгіеўская стужка стала знакам ідэнтыфікацыі баевікоў і сепаратыстаў.

Яна выйшла за межы святкавання Дня Перамогі і набыла новы сэнс. Людзі, якія ўспаролі жывот дэпутату Рыбаку ў Горлаўцы і ўтапілі яго жыўцом, насілі такія стужкі. Людзі, якія адкрылі стральбу з карабінаў па ўкраінскай дэманстрацыі ў Адэсе 2 мая, у выніку чаго ўрэшце загінула 46 чалавек, — таксама. Ва ўкраінскіх дэсантнікаў і байцоў спецназа «Альфа» ў Славянску таксама стралялі людзі з георгіеўскімі стужкамі.

Пасля гэтага стужка перастала быць нейтральным сімвалам.

**Кірыла Хілько**

**Фанаты мінскага «Партызана» сарвалі мерапрыемства рускіх нацыяналістаў у Мінску**

Фанаты футбольнага клуба «Партызан» сарвалі цырымонію ўзнагароджвання ўдзельнікаў псеўдаспартыўнага турніру, які праводзіцца расейскай нацыяналістычнай арганізацыяй. Пра гэта паведамляецца на старонцы «Партызана» ў сацыяльнай сетцы УКантакце.

У гэтую суботу ў Мінску праходзіў 4-ы турнір па так званым «рускім жыме» пад пафаснай назвай «Рускі волат». Прызы турніру вылучыла легальная арганізацыя рускіх нацыяналістаў «Русь маладая», цесна звязаная з Масквой. Відэа інцыдэнту можна пабачыць на nn.by.

**БРСМ у Гомелі не рэкамендуе**

У Гомелі БРСМ рэкамендуе выкарыстоўваць на Дзень Перамогі не георгіеўскія стужкі, а чырвона-зялёныя. Дакумент з такім распараджэннем з'явіўся ў інтэрнэце.

## Беларусы бяздумна капіююць расійскую моду

Кодэкс акцыі забараняе прадаваць стужкі, даваць іх узамен за пакупку ці як спадарожны тавар і выкарыстоўваць стужкі для прасоўвання тавараў ці для выкарыстання іх у палітычных мэтах. Аднак як толькі георгіеўская стужка набрала папулярнасць, яе пачалі чапляць і на бутэлькі гарэлкі, і на рэкламу стрыптыз-шоу.

Да беларусаў георгіеўскія стужкі даходзяць у асноўным праз камерцыйныя структуры. Сёлета іх раздаюць кліентам сеткі гіпермаркетаў ProStore, «Еўраопт», на запраўках кампаніі «РН-Захад» (былая «Славнефть»).

«Еўраопт» ладзіць акцыю не першы год. У гэтым годзе стужкі ля крамаў «Еўраопт» можна будзе атрымаць з 7 па 9 мая. Хоць на сайце кампаніі гаворыцца пра валанцёраў, гэтым людзям будуць плаціць 25 тысячаў за гадзіну. Маладых дзяўчат для распаўсюду стужак «Еўраопт» шукае праз рэкламнае агенцтва.

Маркетолаг кампаніі «РН-Захад» Аксана Шапілевіч кажа, што кампанія далучылася да акцыі «Георгіеўская стужка» з уласнай ініцыятывы: «Гэта сімвал таго, што мы ганарымся подзвігам тых, дзякуючы каму жывём у мірнай краіне».

У той жа час БРСМ, які праводзіць акцыю «Дзякуй за Перамогу», сугучную аднаму з лозунгаў кампаніі «Георгіеўская стужка», раздае толькі чырвона-зялёныя стужкі — беларускія дзяржаўныя. Лукашэнка таксама ніколі не быў заўважаны з георгіеўскай стужкай. Нават у кампаніі Мядзведзева і Януковіча, калі тыя ўпрыгожылі імі пінжакі ў маі 2010-га, Лукашэнка надзеў чырвона-зялёны бант.

# Чаму маўчаць КДБ і Міністэрства інфармацыі?

**Сайт imperiya.by распальвае міжнацыянальную варажнечу.**





Шойгу прямолинейно высказался о ситуации в Украине. Беда неизбежна



ТОП Программа восстания на ближайшее время

7 апреля 2014, Империя

ПРОГРАММА ВОССТАНИЯ НА БЛИЖАЙШЕЕ ВРЕМЯ

1. Образовать Советы в регионах, которые будут признаны законными органо сегодня же. Доверия изменникам и пособникам из облсоветов и горсоветов никак восстания только у Совета в регионе.

2. Собирать людей, настроенных против хунты, к захваченным зданиям в Донецк для дальнейших действий.

Imperiya.by — зарэгістраваны ў Беларусі рэсурс, у красавіку сайт апублікаваў «Праграму паўстання на найбліжэйшы час». Гэта былі інструкцыі, скіраваныя да сепаратыстаў усходу і поўдня Украіны.

«Па меры назапашвання сіл захопліваць іншыя будынкі, звязаныя з уладай і СМІ, а менавіта будынкі СБУ, судоў, адміністрацый, пракуратуры, міліцыі, тэлеканалаў, казначэйства. У выпадку немагчымасці захопу — знішчаць будынкі або адключаць ад усіх гарадскіх камунікацый. Кожны захоп даводзіць да ведама ўсіх, каб паказаць рэальныя дзеянні, умацаваць дух людзей, яшчэ больш склікаць пад свае сцягі...

Утварыць свае ўласныя вайсковыя фармаванні. Забраць зброю з вайсковых частак, аддзелаў міліцыі, вайсковых складоў для ўзбраення сваіх падраздзяленняў...

Ліквідаваць памежную ахову расейска-ўкраінскай мяжы як інстытут, мяжа павінна быць адкрытай для перамяшчэння грузаў і людзей без найменшага кантролю з боку памагатых хунты...

Абвясціць падрыхтоўку рэферэндуму ў рэгіёне аб яго статусе...»

Заклікі да змены дзяржаўнага ладу, адрыву часткі тэрыторыі ад дзяржавы ў чыстым выглядзе. Уявіце сабе, каб з такімі заклікамі нейкі замежны сайт звяртаўся да беларусаў. Чаму ж такія інструкцыі публікуюцца на беларускім сайце?

Дарэчы, менавіта па гэтай схеме сепаратысты і дзейнічалі. Праўда, не ўсё ім удалося рэалізаваць.

Што за сайтператварыўся ў падбухторшчыка дзеянняў сепаратыстаў ва Украіне?

Партал створаны ў Беларусі. Пры гэтым ён заклікае да ліквідацыі беларускай дзяржавы. А Аляксандра Лукашэнку на ім малююць ворагам Расіі, русафобам.

Ягоны стваральнік Юрый Баранчык цяпер жыве і працуе ў Маскве. Але сам партал застаецца ў беларускай зоне. Мусіць, тое выгадна.

5 мая партал апублікаваў артыкул, у якім тлумачыць сваёй аўдыторыі, чаму Расія дагэтуль адкрыта не ўвяла войскаў у Данбас. «Ішлі і людзі, і тэхніка, і боепрыпасы», — тлумачыць Імперыя. бай. І заклікае баевікоў трымацца.

Па меры нагнятання сітуацыі мяняецца і змест сайта. Цяпер на ім поўна адкрытых зняваг на адрас украінцаў (і беларусаў) і слаба прыхаванай прапаганды гвалту.

Прывядзём некалькі цытат з «Імперыі».

**«Украінскіх зомбі трэба знішчаць»**
Бачылі фільмы пра зомбі? Там людзей ірвуць на часткі пачвары, якія яшчэ некалькі хвілін таму былі такімі ж людзьмі. У жыцці ўсё не так хутка. Украінскіх зомбі Захад вырошчваў 23 гады. І вось яны дачакаліся сваёй гадзіны. З зомбі размаўляць няма пра што. Весці перамовы — бескарысна. Яны нічога не пачуюць і нічога не зразумеюць. Іх трэба толькі знішчаць.

5 мая.

**«Перарззалі горла на вачах у родных»**
Мінулай ноччу першы «правасек» [скрба «Правага сектара» — «НН»] ужо адправіўся да Бандэры. Сур'ёзныя людзі зайшлі да яго ў дом і перарззалі горла на вачах у родных.
Кожны, хто ўдзельнічаў у «Правам Сектары», адзначаны смерцю. Кожны «правасек» па ўсёй Украіне Новы год сустрэне ў цяпле, надзейна схаваўшыся ад снегу і марозу пад двума метрамі зямлі.

4 мая.

**«Месца ўсялякім Беларусіям і Украінам няма»**
За саюз з Расеяй ужо выступае палова (!) апытаных, а колькасць прыхільнікаў інтэграцыі з Еўропай знізілася да 33%. Вось гэтага якраз і спалохаўся Лукашэнка. І ён тут жа заявіў: «Мы не рускія. Мы — беларускія!» Нічога не нагадвае? Але не, мой дарагі Аляксандр Рыгоравіч, мы рускія!
Прыходзіць новы палітычны час — час імперый. І тут месца ўсякім Беларусіям з Украінай папросту не застаецца. І Казахстанам з Кіргізіяй, ага.

27 красавіка

**«Я прыкладу ўсе свае сілы, каб назаўжды сцерці гэтую дзяржаву Украіну!»**
Гэта недарэчная пачварнасць, якая была падсунутая рускім, замест іх сапраўднай мовы, гісторыі і культуры. Украіна — гэта непрыгожая хімера, якая разбурыла нашы жыцці. Пераптварыла нас у баязлівае быдла, а нашых дзяцей у бязмозгіх крыважэрных ублюдкаў. У яе няма будучыні. Украіна карміласядушамі рускіх людзей, іх крывёю і працай, за кошт гэтага яна трымалася ўсе гэтыя гады.

4 мая

**«Ніякіх беларусаў і ўкраінцаў не існуе»**
Беларусь і Украіна — прыдуманыя нацыі.
Што адбываецца ва Украіне — усе бачаць. А ў Беларусі адбываецца тое ж, што і ў 1920-я гады. Тыя русафобы, але больш тупыя, патрабуюць 100%-й беларусізацыі «тут і цяпер». А тыя, што больш разумныя, займаюць пасады ў дзяржапараце, услых гавораць пра «братэрскія народы» і працягваюць сваю чорную справу.

3 мая

**«Ахвяры будуць»**
Ахвяры ж так ці інакш непазбежныя. На мой погляд, пытання ўжо няма — ці будуць, ці не. Вядома, будуць. Пытанне стаіць, будзе іх шмат ці мала. Вайна будзе ісці да поўнага знішчэння аднаго з бакоў.

1 мая

На гэтым сайце цяпер частыя заклікі «забівай фашыстаў», «знішчым фашыстаў». Але хто такія фашысты? Байцы групы «Альфа»? Украінскія дэсантнікі, што спрабуюць аднавіць парадак?

Гэта звычайнае замбаванне людзей, каб настроіць адных украінцаў (і беларусаў) супраць іншых, каб брат пайшоў на брата.

Хлусня ствараецца па лекалах Гебельса. Чым больш неймаверная, тым лепш: «Фабрика смерти. 24-я сотня Майдана наладила торговлю человеческими органами. Людей убивают сотнями, трупы сжигают».

«У цэлым усё развіваецца зусім някепска, як бы цынічна гэта ні гучала», — гаворыцца ў іншым артыкуле сайта, апублікаваным 5 мая. Гэта ўжо калі дзясяткі людзей загінулі ў Адэсе і Славянску, Горлаўцы і Марыупалі. Аказваецца, гэта ўсё някепска!

На сёння сайт мае прыкладна 10 тысяч сталых чытачоў. З іх толькі каля 500 — з Беларусі.

«Хартыя», «Беларускі партызан» ці Яўген Ліпковіч ніколі не дазвалялі падобных рэчаў, тым не менш іх унеслі ў «чорны спіс» сайтаў.

Ніяк не рэагуюць на артыкулы «Імперыі» і ў Міністэрстве інфармацыі. Старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька быў занепакоены каларадскімі жукамі на першай старонцы «Нашай Нівы», затое заклікі забіваць людзей яго зусім не турбуюць.

«Імперыя» дазваляе невядома што — і нуль рэакцыі. Маўчаць старшыня КДБ Валерый Вакульчык і дзяржаўны сакратар Рады бяспекі Аляксандр Мяжуеў. Хаця спецслужбы і атрымалі публічны загад ад Лукашэнкі спыняць дыверсантаў.

Каму ж выгаднае існаванне такіх сайтаў, якія заклікаюць сцерці Украіну і ліквідаваць Беларусь?

**Зміцер Панкавец**



## «Ізвестія»: «Черная сперма фашизма пролилась на Киев»

У Расіі працягваецца інтэнсіўная прапаганда ваеннага ўварвання ва Украіну. Украінцаў малююць недачалавекамі, якія вартыя толькі вынішчэння. Расійская прапаганда сёння адзін у адзін нагадвае гітлераўскую часоў уварвання ў Чэхію і Польшчу ў 1938—1939. Прыводзім цытату з артыкула Аляксандра Праханава, які з'явіўся ў цэнтральнай расійскай газеце «Ізвестія», якая цяпер належыць «Газпрому»:

«Черная сперма фашизма пролилась на Киев — матерь городов русских. После одесского крематория Обама и Меркель пахнут жареной человечиной. Тимошенко, эта злобная калека, свила себе косу из волос узников Освенцима.

Новый бой с фашизмом неизбежен. Неизбежен одиннадцатый сталинский удар.

Пусть президент Путин примет военный парад и отдаст приказ проходящим полкам отправиться в Донецк, где раненый ополченец слабеющей рукой бросает бутылку с зажигательной смесью в фашистский бандеровский танк».

# Двое беларусаў за некалькі крокаў ад палёту на Марс

Мікіта Хаткевіч (30 гадоў) і Антон Яфрэмаў (27 гадоў) увайшлі ў лік 705 чалавек, якіх адабралі ў наступны этап праекта «Марс Адзін». Усяго было пададзена больш за 200 тысяч заявак з 140 краін.

Сваімі ўражаннямі з «Нашай Нівай» падзяліўся мінчук Антон Яфрэмаў. Мікрабіёлаг па спецыяльнасці, ён працуе простым грузчыкам у аддзеле бытавой тэхнікі ў «Кароне» (адным са сталічных гіпермаркетаў).

Аднак сапраўднае захапленне Антона, якое займае ўвесь вольны час, — гэта касплэй (касцюмаванае шоу). У хлопца свая творчая група, з якой ён удзельнічае ў міжнародных фестывалях, ладзіць тэатралізаваныя шоу, здымае кліпы. Марыць, каб хобі перарасло ў справу жыцця. Зразумела, калі ён не паляціць на Марс.

«Справа не канкрэтна ў Марсе, а ў спробе зрабіць нешта грандыёзнае», — тлумачыць Антон матывацыю да ўдзелу ў праекце.

«Я цудоўна ўсведамляю, што людзі смяротныя. Пытанне ў тым, як мы зможам сваё жыццё правесці. Лепш, каб ярчэй, а не даўжэй», — кажа хлопец.

Ён называе сябе веруючым чалавекам, а «праваслаўе не супраць таго, каб наведваць іншыя планеты».

Перад Новым годам Антон атрымаў ліст на электронную скрыню ад праекта «Марс Адзін», што ён трапіў у другі тур адбору. Такі ж ліст атрымалі яшчэ чатыры беларусы (два хлопцы і дзве дзяўчыны). Да сакавіка яны мусілі прайсці медкамісію і даслаць яе вынікі арганізатарам праекта. У выніку хтосьці вырашыў спыніць удзел у праграме, адна дзяўчына не здала камісію. І ў гонцы за білет у адзін канец засталіся Мікіта ды Антон.

Медагляд трэба было прайсці ў сваёй паліклініцы. Хаваць ад урачоў, для якіх ён мэтаў, не было сэнсу. Антону даслалі бланк з лагатыпам «Марс Адзін» з назначэннем усіх неабходных працэдур, які трэба было паказваць дактарам.

«Калі сказаў у доктара, для чаго гэта, дык яна ўзрадавалася, пачала ўсім званіць, расказваць, што «касманаўт нейкі прыйшоў», падняла шум у паліклініцы. Хто смяяўся, хто не верыў», — апавядае хлопец.

У цэлым рэакцыя была такая: мы цябе праверым, зробім, як трэба, але гэта ўсё глупствы. Выратоўвала, што большасць дактароў ніколі не чула пра такую праграму.

Адзіная замінка ўзнікла з падпісаннем канчатковай паперы на бланку «Марса». У паліклініцы не хацелі ставіць пячатку, спасылаючыся, што гэта не афіцыйны бланк.

Тады Антон спісаўся з галоўным доктарам праграмы, патлумачыў сітуацыю. Той адказаў, што «нічога страшнага, вы пройдзеце далей», што і адбылося.

Сябры падтрымліваюць Антона ў яго мары паляцець на Марс, бацькі ставяцца адмоўна. А сам хлопец выбар ужо зрабіў і сцвярджае, што яго нішто не спыніць.

Наступны этап — асабістае інтэрв'ю з арганізатарамі праекта. Да 2015 года строгае касмічнае журы адбярэ 24 асобы. Цягам некалькі гадоў іх будуць рыхтаваць да палёту. І толькі ў 2023, калі ўсё будзе добра, чацвёра з іх адправяцца ў рызыкоўнае падарожжа.

«Верагоднасць, што я патраплю ў гэтую чацвёрку, мінімальная. Так што рана яшчэ ставіць на мне крыж», — смяецца Антон.

**Аксана Рудовіч**



Антон Яфрэмаў.

**«Марс Адзін»**

Прыватны праект галандскага прадпрымальніка Ларса Ландсдорпа, які мае на мэце заснаванне на Марсе чалавечай калоніі. У 2025 годзе першая група з чатырох чалавек павінна высадзіцца на Марсе. Праз дзесяць гадоў насельніцтва планеты павінна вырасці да 20 чалавек. Білеты ўдзельнікі атрымаюць толькі ў адзін бок, на Зямлю вярнуцца яны ўжо не змогуць.

## Першай намесніцай міністра культуры стала ідэолаг з Адміністрацыі прэзідэнта

Начальніца ўпраўлення сацыяльна-культурнай палітыкі галоўнага ідэалагічнага ўпраўлення Адміністрацыі прэзідэнта Ірына Дрыга прызначаная першай намесніцай міністра культуры. На гэтай пасадзе яна зменіць Уладзіміра Карачэўскага, які магчыма, узначаліць Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі.

Дагэтуль спадарыня Дрыга некалькі разоў з'яўлялася ў СМІ. Напрыклад, у студзені 2012-га яе згадаў спявак Зміцер Вайцюшкевіч: ягоны канцэрт не прайшоў узгаднення ў Ірыны Дрыгі.



«Сумна мне, так хацелася спадзявацца, што надыдзе адліга, а тут перашкаджае нейкая Ірына Дрыга... Давядзецца прыняць за дадзенасць і далей сядзець у падполлі, ды пакрысе рабіць падкоп знізу», — жартаваў тады Вайцюшкевіч у каментары для «Тузіна гітоў».

Гэта была не адзіная забарона для музыкаў з «чорнага спісу», якую «выпісвала» прадстаўніца Адміністрацыі прэзідэнта.

А яшчэ перад гэтым Ірына Дрыга адзначылася выступам адносна зместу школьных падручнікаў. «Трэба сачыць і за ідэалагічным зместам вучэбнай літаратуры», — заявіла яна ў інтэрв'ю «Звяздзе».

«У якасці прыкладу можна прывесці падручнік па грамадазнаўстве, прызначаны для вучняў 9-х і 10-х класаў. Напрыклад, раздзел пра палітычных лідараў суправаджае фатаграфія кіраўнікоў дзяржаў «Вялікай васьмёркі». Але ці патрэбна нашым дзецям ведаць у твар кіраўнікоў Індыі або Бразіліі?

Ці не лепш было змясціць фатаграфію прэзідэнта Рэспублікі Беларусь з кіраўнікамі краін СНД? Ці ў раздзеле «Грошы» мы бачым на ілюстрацыі грошы любых краін, але толькі не беларускія. Таксама ў падручніку паведамляецца, што парламент фарміруе ўрад, прызначае і адпраўляе ў адстаўку міністраў. Прабачце, пра парламент якой краіны ідзе размова? Беларускі парламент вырашае іншыя задачы. Напэўна, нашых дзяцей трэба навучаць і выхоўваць усё ж на нашых прыкладах!» — казала будучая першая намесніца міністра культуры.

Варта адзначыць, што Ірына Дрыга была кіраўніком групы па правядзенні маніторынгу ў прыватнай установе адукацыі «Жаночы інстытут «Энвіла». У выніку дзейнасці групы інстытут быў ліквідаваны.

Ірына Дрыга 1970 года нараджэння. Кандыдат педагагічных навук. Бібліёграф. Працавала ў Інстытуце культуры.

**Зміцер Панкавец**




## Дар'я Шманай — брунэтка, што сядзела побач з дарадцамі Лукашэнкі

Падчас лукашэнкаўскага Паслання да народа і парламента ўсе звярнулі ўвагу на маладую дзяўчыну, што сядзела побач з памочніцай Лукашэнкі Наталляй Пяткевіч. Што ўяўляе сабой гэтая дзяўчына?

«Міс Вясна — 2013» Дар'я Шманай — не першы год працуе ў мадэльным бізнэсе. Дарка мае свой рахунак у сацыяльнай сетцы Укантакце. Тут можна ўбачыць шмат фотаздымкаў яе з розных паказаў: Belarus fashion week 2012, Fashion's night out 3, Central Fashion Market, паказ ад куцюр'е Аўтандзіла.

Мяркуючы па запісах на старонцы, яна сочыць за конкурсам «Каралева Вясны»: пакінула спасылку на відэа з сёлетняга конкурсу. І з настальгіяй узгадвае леташнюю сваю перамогу: «Роўна год назад столькі розных пачуццяў перажыла на «Каралеве Вясны». Але гэта таго было варта».

Дзяўчыне даспадобы ўкраінскі гурт «Акіян Эльзы». «Сапраўдны прафесіянал! Талент!» — напісала яна на сваёй старонцы на наступны дзень пасля канцэрта ў Мінску 8 снежня. І пакінула пад фота з выступлення сем песень.

Наконт сваёй прысутнасці на лавах дарадцаў кіраўніка дзяржавы ў часе звароту Аляксандра Лукашэнкі з пасланнем да нацыянальнага сходу, яна сказала, што «працуе там» (маецца на ўвазе прэзідэнтура).

**Кастусь Матушыч**

**Цытата**



**Козік: Дайце нам свабодна жыць, развівацца. І не спрабуйце думаць, што вы калісьці валодалі Паўночна-Заходнім краем**

«Мы — маладая краіна, але мы развіваемся. Мы заўсёды будзем свабоднай, незалежнай краінай. Ніхто нас не чапайце — ні злева, ні справа, дайце нам свабодна жыць, развівацца. І не спрабуйце думаць, што вы калісьці валодалі Паўночна-Заходнім краем або яшчэ чымсьці. Мы не хочам быць ніякім краем, мы — Рэспубліка Беларусь, у нас ёсць прэзідэнт Лукашэнка. Мы яго падтрымліваем, таму што хто б што ні плёў, ні казаў, а ён вядзе краіну правільным курсам», — такой прамовай з нагоды Першамая выбухнуў старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік.

# Беларуска з Краматорска: «Я баюся»

**На Данбасе ідзе антытэрарыстычная аперацыя, а Адэса ўзрушаная крывавымі сутычкамі. «Наша Ніва» паразмаўляла з беларусамі, якія жывуць на ўсходзе Украіны, і з беларускімі журналістамі, якія асвятлялі падзеі там.**



Прарасійскія сілы вартуюць захоплены ў Луганску будынак СБУ.

«Толькі што зноў завыла сірэна, на дахах сядзяць снайперы, і мы нават не ведаем, хто яны і адкуль», — кажа беларуска Тацяна, якая амаль 30 гадоў жыве ў Краматорску — тым самым, дзе ідзе антытэрарыстычная аперацыя.

Жанчына просіць не называць яе прозвішча: «Мы баімся. Цяпер я размаўляю з вамі — і не ўпэўненая, што нашую размову не праслухоўваюць, сувязь увесь час перарываецца. Мы стараемся не выходзіць без патрэбы на вуліцу. Выехаць з Краматорска немагчыма: цягнікі не ходзяць, а калі ехаць машынай, вялікая верагоднасць, што на блокпасту яе адбяруць узброеныя людзі ў масках — фактычна, гэтыя незразумелыя фармаванні займаюцца марадзёрствам. Вызначыць па форме, хто яны, немагчыма. Але сярод іх ёсць і прафесійныя, добра падрыхтаваныя вайскоўцы.

Як жонка вайскоўца, я ўсё ж больш спадзяюся на рэгулярную армію, і ў той жа час украінскія ўлады пусцілі ўсё на самацёк. Так званыя сепаратысты ж не высунулі ніякіх уцямных патрабаванняў — я не разумею, чаго яны хочуць. Мяркуючы па суседзях і калегах на працы, грамадства падзеленае: нехта за адзіную Украіну, нехта за далучэнне да Расіі. Большасць жа спадзяецца проста на мір і на тое, што ўсё гэта скончыцца. Прадукты ў крамы завозяць, нягледзячы на невялікія збоі, заробкі і пенсіі плацяць. Адмененыя заняткі ў школах, бацькам раяць не весці дзяцей у садкі. Не працуе грамадскі транспарт. Я сёння ішла з працы гадзіну і сорак хвілін — бегла дварамі. Мы баімся хадзіць па вуліцах...»

### «За Украіну, здаецца, большасць»

Нічога не зразумела нават на месцы — лейтматыў у аповедах звычайных жыхароў Данбаса.

«З Мінска прасцей даведацца праўду пра нашыя падзеі, чым нам тут, — кажа з Данецка Сафія Пасынкава, старшыня Данецкага культурна-асветніцкага аб'яднання беларусаў «Нёман». — Мы спрабуем глядзець як украінскія, так і расійскія каналы, шукаць нейкі баланс. На мітынгі, як праўкраінскія, так і прарасійскія, я не хаджу. Як прадстаўніца культурнага аб'яднання, якое па-за палітыкай, я не маю на гэта права, думаю.


Сафія Пасынкава.

Адыдзеш 200 метраў ад захопленай абласной рады — і горад жыве, як звычайна. Працуюць крамы, транспарт, ваенных дзеянняў у нас тут няма. Хаця ноччу бываюць перастрэлкі.

Тут ёсць як тыя, хто за адзіную Украіну, так і тыя, хто за далучэнне да Расіі. Першых, здаецца, больш: нават людзі, якія ходзяць з расійскімі сцягамі, хутчэй за афіцыйны статус расейскай мовы і сяброўства ці саюз з Расіяй. Яны абураныя тым, што ў Кіеве іх не чуюць, яны лічаць сёняшнюю кіеўскую ўладу нелегітымнай. Я прыязджаю ў Беларусь — і таксама хачу, каб мы ўсе тут размаўлялі па-беларуску, але зразумейце, людзям складана, асабліва старэйшаму пакаленню. Сепаратысты — гэта гучна сказана».

### Праблема Данбаса — «пасіўнасць»

Беларускі прадзюсар Ілля Кузняцоў месяц з паловай працаваў для нямецкага канала ARD на ўсходзе Украіны — у тым ліку ў Данецку, Луганску, Славянску, Краматорску. Ён расказвае пра звычайную тактыку захопаў адміністрацыйных будынкаў і аддзелаў міліцыі сепаратыстамі: «Спачатку прыязджаюць невялікія групы, чалавек 20, вельмі прафесійных, добра падрыхтаваных і добра ўзброеных дыверсантаў у аднолькавай форме, захопліваюць будынкі, раздаюць зброю мясцовым сепаратыстам і з'язджаюць у іншыя гарады. Складана сказаць, адкуль яны — не выключана, што з Расіі. Я размаўляў з некаторымі з іх, яны казалі, што яны з Крыма».

Данбаскія ж сепаратысты, паводле беларускіх журналістаў, часцей за ўсё беспрацоўныя, малаадукаваныя людзі.

«Я размаўляў з двума палявымі камандзірамі, якія самі казалі, што ў складзе іх груп у асноўным беспрацоўныя», — каментуе журналіст газеты «Новы час» Зміцер Галко, які другі месяц знаходзіцца на ўсходзе і поўдні Украіны.

### Міліцыя сабатуе

«Інтэлігенцыя, студэнты, бізнэсоўцы ў асноўным падтрымліваюць адзіную Украіну — гэта даволі відавочны падзел», — кажа Ілля Кузняцоў. Ступень падтрымкі сепаратыстаў адрозніваецца і ў залежнасці ад маштабаў горада.

«Мы не праводзілі сацыялагічнае даследаванне, але калі ў Харкаве ці Данецку, па маіх назіраннях, сепаратыстаў падтрымлівае каля 30% жыхароў, то ў дробных, бяднейшых гарадах гэты паказчык можа ўзрасцаць да 70—80%, — кажа Алесь Баразенка, журналіст тэлеканала «Белсат», які працаваў у тым ліку ў Данецку, Харкаве, Краматорску, Славянску, Горлаўцы. — Мы назіралі, як у Харкаве адначасова сабраўся прарасейскі мітынг колькасцю каля 500 чалавек і праўкраінскі, на які прыйшло больш за 10 000 удзельнікаў. Але ўжо на наступны дзень сітуацыя кардынальна змянілася, на падтрымку прарасейскім мітынгоўцам прыехалі людзі са Славянска і іншых гарадоў. У Данецку праўкраінскі мітынг, які рыхтаваўся ледзь не ва ўмовах сакрэтнасці, сабраў у 2—3 разы больш людзей, чым мітынг сепаратыстаў каля абласной рады. Таму тут усё вельмі неадназначна».

Але ўкраінская ўлада выглядае бездапаможнай. А міліцыя, якая была цесна павязаная з кланам Януковіча, часта сабатуе загады, расказваюць беларускія жуналісты.

«У сепаратыстаў ніхто нікому не падпарадкоўваецца нават у межах аднаго будынка, — кажа Ілля Кузняцоў. — Паверхі Данецкай абласной рады занятыя рознымі групоўкамі. Яны патрабуюць федэралізацыі, пры гэтым ніхто з іх не можа патлумачыць, што гэта такое.

Міліцыя фактычна сабатуе загады. Супраціў сепаратыстам чыняць толькі Унутраныя войскі.

Многія жыхары гарадоў кшталту Данецка стаміліся ад людзей у «адыдасе» і з бітамі і хочуць, каб усё гэта хутчэй скончылася».

Зміцер Галко параўноўвае менталітэт жыхароў Данбаса з беларускім і кажа, што поспех сепаратыстаў грунтуецца на пасіўнасці праўкраінскай часткі насельніцтва. «Праблема Данбаса — у тым ліку пасіўнасць тых, каму апошнія падзеі не даспадобы. Гэта нейкія беларускія настроі: людзі лічаць за лепшае перачакаць складаныя часы».

### Грамадзянская вайна?

«Я ў Адэсе з 3 мая і лічу, што данецкі сцэнар тут немагчымы, — кажа Зміцер Галко. — У Адэсе таксама, як і на Данбасе, адчуваецца калапс улады, але тут больш актыўных людзей, якія гатовыя актыўна абараняць Украіну. Вёска ў Адэскай вобласці ўкраінская і моцна патрыятычная. На мясцовым Майдане чуеш украінскую мову часцей, чым у горадзе. Праўкраінскія актывісты хадзілі з дубінамі, бачыў я і пісталеты. Увогуле ж, у горадзе адчуваецца напружанасць. Політэхнічны ўніверсітэт побач з Домам прафсаюзаў закрыты да 12 мая, а замежным студэнтам параілі раз'ехацца па дамах».

«На Данбасе шмат узброеных груповак, — расказвае Ілля Кузняцоў. — Разам са спецназам ваюе набраная з добраахвотнікаў Нацыянальная гвардыя. З'явіліся «чорныя чалавечкі», якія палююць на «зялёных». Ветэраны Афгана фармуюць добраахвотніцкія праўкраінскія батальёны — такія, як «Дняпро». На дапамогу сепаратыстам прыехалі дыверсійныя групы з Крыма. Тут столькі ўзброеных груповак і такі ўзровень гвалту, што да грамадзянскай вайны застаўся адзін крок».

Зміцер Галко лічыць, што пераломным момантам сталі адэскія падзеі. «Два месяцы таму я быў катэгарычна супраць ужывання тэрміна «грамадзянская вайна» ў дачыненні да Украіны. Цяпер, пасля трагедыі 2 мая ў Адэсе, яна фактычна пачалася. Узровень агрэсіі ў грамадстве вельмі высокі. Нічога добрага не будзе».

**Ганна Бадзяка**


Ілля Кузняцоў.


Зміцер Галко.


Алесь Баразенка.

# Праслушка пад выглядам мадэрнізацыі

**Якія таямніцы хацела даведацца дырэктарка ад сваіх падначаленых?**

У Мінску пачаўся суд над былой дырэктаркай кандытарскай фабрыкі «Слодыч» Таццянай Селіх. Яе вінавацяць у праслухоўванні работнікаў фабрыкі. У справе фігуруе больш за 35 пацярпелых. Селіх жа сябе не прызнае вінаватай.

Справа супраць кіраўніка «Слодычы» стала вынікам іншага расследавання — па вырабе і продажы «жучкоў» на сталічнай фірме. Кліентам жа аказалася Селіх. Яна адмовілася супрацоўнічаць са следствам, рабіла спробы перашкодзіць следчым. І напісала хадайніцтва аб вызваленні ад крымінальнай адказнасці на імя Лукашэнкі. Праўда, зварот пакінулі без разгляду, бо яна не кампенсавала шкоду — 202 мільёны рублёў.



«Жучкі» ўключаліся пры любых размовах аўтаматычна

DELO.BY

Цяпер раскрыліся ўсе акалічнасці справы. Ад крымінальнага пераследу ўжо вызвалілі траіх абвінавачваных: іх прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці. Гэта супрацоўнікі «Праекттэлекамбуда» — прадпрыемства, якое і паставіла «жучкі» на фабрыцы. Праўда, па версіі абвінавачвання, Таццяна Селіх «увяла іх у зман» у законнасці такой працы.

### Пад знакам мадэрнізацыі

А пачалася гісторыя яшчэ ў лістападзе 2011. Тэхнічны дырэктар «Праекттэлекамбуда» Аляксандр Цімашэнка звярнуўся да кіраўніцтва «Слодычы». «Я патэлефанаваў дырэктару: у мяне была інфармацыя, што ім патрэбныя паслугі сувязіста. Нашая арганізацыя займаецца тэлефоннымі, лакальнымі, сістэмамі відэаназірання. Я атрымаў пацверджанне. Дамовіліся сустрэцца на прадпрыемстве».

На фабрыцы вырашылі правесці мадэрнізацыю тэлефонных сетак. А пад гэтай маркай і паставіць праслушку. Цімашэнка сцвярджае, што такую задачу атрымаў ад дырэктаркі. «Яна спыталася, ці можам мы такое зрабіць. Я адказаў: «Так». Мы правялі абследаванне і склалі камерцыйную прапанову». А калі ўсе нюансы ўзгаднілі, «я падрыхтаваў дакументы і перадаў іх праз Уладзіміра — гэта адказны чалавек, якога прызначыла Селіх». А ў выстаўленым рахунку былі ўлічаны і складнікі для «жучкоў».

### Сабралі «жучкі» на офісе

«Кіраўніцтва сказала, што будзе такая апаратура — бяры разбірайся. Аляксандр Цімашэнка прынёс вялікую скрынку з тэлефонамі, мікрафонамі — усё да кучы. Як разабраўся? Інтэрнэт — вялікая справа, інструкцыя была», — расказаў на судзе інжынер Дзмітрый Бандаровіч. Ён ставіў мікрафоны ў тэлефоны, а кабельшчык Аляксей Цімашэнка (брат дырэктара) разбіраў-збіраў апараты. І ўжо разам расстаўлялі іх па кабінетах: строга па спісе, які паказваў Уладзімір. «Я яму казаў, што трэба на прадпрыемстве павесіць такія шыльдачкі, што вядзецца аўдыёзапіс. Як усюды», — прыгадаў на судзе Аляксандр Цімашэнка. Але ніхто папярэджваць пра гэта не стаў.

Бандаровіч патлумачыў Селіх прынцып працы. «Я паказаў на яе камп'ютары, як слухаць. Там уводзяцца IP-адрас рэгістратара, логін, пароль — і ўключаеш канкрэтны мікрафон. Яна запісала логін і пароль. Паказваў, і як захоўваюцца файлы на камп'ютар».

У канцы лютага 2012 усё было гатова для праслушкі. Але «жучкі» працавалі так, што пісалі толькі размовы ў памяшканні, але не тэлефонныя перамовы: яны ўключаліся пры пэўным узроўні шуму і запісвалі, пакуль усё не сціхала. Аўдыё акумулявалася на сервер, доступ да якога быў толькі з камп'ютара дырэктаркі.

### 202 мільёны

Канцэрн «Белдзяржхарчпрам», у які ўваходзіць «Слодыч», заявіў пазоў на кампенсацыю матэрыяльнай шкоды — 202 мільёны 146 тысяч 618 рублёў. Гэта сума, на якую была праведзена мадэрнізацыя тэлефонных сетак і пастаўлена праслушка. Адвакаты ж спрабуюць давесці, што сума не абгрунтаваная. Маўляў, большасць закупленага абсталявання працуе і сёння.

«Нулявы астаткавы кошт абсталявання з'яўляецца падставай для яго мадэрнізацыі альбо закупкі новага?» — Селіх хоць і адмовілася пакуль сведчыць, але пытанні іншым фігурантам задае. «Гэта азначае, што абсталяванне цалкам амартызавана. Для абсталявання, якое ўводзіцца ў эксплуатацыю на любым прадпрыемстве, разлічваецца тэрмін яго службы. І калі нулявы астаткавы кошт выяўляецца прадпрыемствам — гэта першы сігнал, што абсталяванне трэба мадэрніраваць і закупляць новае... Сума шкоды, як мінімум, не разлічана зусім», — Селіх апелюе да таго, што пры выстаўленні такой шкоды не ўлічылі амартызацыі за час эксплуатацыі тэлефонаў. Між іншым, ад Селіх было пералічана 10 мільёнаў рублёў прадпрыемству яшчэ да суда — у кошт кампенсацыі. Працэс працягваецца.

**Сяргей Макарэвіч**

**Кар'ерны ўзлёт**

Таццяне Селіх 35 гадоў, разведзеная, дзяцей няма. Нарадзілася ў Туркменістане, але з'яўляецца грамадзянкай Беларусі. Скончыла Эканамічны ўніверсітэт, не судзімая.

Вядома, што Селіх пачынала кар'еру прадаўцом у Мінску. Пасля знаёмства з дырэктарам «Слодычы» перайшла на фабрыку на пасаду начальніка аддзела фірмовага гандлю. З 2007 была намесніцай дырэктара па лагістыцы. У красавіку 2009 узначаліла кандытарскую фабрыку — для 30-гадовай жанчыны гэта сапраўдны ўзлёт.

Летась яна стала пераможцай конкурсу «Жанчына года—2012». У 2011 адзначана прэміяй часопіса «Дело» за падтрымку высокага стандарту сваёй прадукцыі. Арыштавалі Тацціяну Селіх у снежні 2013.

## Вышук



**Сабутэльнік**

Віталь Пашкоўскі падазраецца ў збіцці 13 красавіка сабутэльніка ў Мінску, які ад траўм памёр. Прыкметы: на выгляд 50-55 гадоў, хударлявы, рост 165-170 см, на левай руцэ ёсць татуіроўкі ў выглядзе ікон і пярсцёнкаў. Калі вы бачылі гэтага чалавека, звяртайцеся на: (017) 200-60-36, 102.



**Рамантаваў**

21-гадовы хлопец затрыманы па падазрэнні ў махлярстве. Ён расклейваў аб'явы аб рамонце ноўтбукаў у Мінску. Але, атрымаўшы тэхніку, выстаўляў на продаж у інтэрнэце. Калі вы пацярпелі ад чалавека на фота, звяртайцеся на: (017) 230-34-34, (029) 883-23-96.

# Спаліў сябе і сям'ю

**Бытавы канфлікт скончыўся трагедыяй.**

Калі да 18-павярховіка на Рэчыцкім праспекце ў Гомелі прыехалі пажарныя, гарэла кватэра на шаснаццатым паверсе. Ужо на лесвічнай пляцоўцы выратавальнікі знайшлі яшчэ жывымі маладых жанчыну і мужчыну. У кватэры — трупы 50-гадовага гаспадара і 48-гадовай гаспадыні.

«Дачка загінулых, 1988 года нараджэння, а таксама яе сужыцель, 1985 г.н., з тэрмічнымі апёкамі полымем 80 і 98 працэнтаў паверхні цела адпаведна былі шпіталізаваныя. Жанчына памерла ў бальніцы. Яна паспела расказаць, што ў той вечар паміж бацькамі адбыўся канфлікт, падчас якога бацька наўмысна разліў і падпаліў лёгкую на загаранне вадкасць», — паведаміла



MCHS.GOV.BY

прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

Цела гаспадара кватэры выратавальнікі выявілі ў ваннай, а гаспадыні — у пакоі, які найбольш і пацярпеў ад агню. Відаць, там муж і падпаліў вадкасць. Мо хацеў папалохаць у шаленстве, але не разлічыў і спаліў сям'ю і згарэў сам. Заведзена крымінальная справа. Але калі версія пацвердзіцца, караць не будзе каго.

У кватэры пражывала таксама дачка маладой пары 2010 года нараджэння. Але ў той час яна знаходзілася ў другой бабулі па іншым адрасе.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

**Эвакуавалі 700 чалавек**

5 мая гарэў інтэрнат Віцебскай акадэміі ветэрынарнай медыцыны. Супрацьпажарная сігналізацыя спрацавала каля 4-й гадзіны раніцы. Калі прыехалі выратавальнікі, гарэў пакой на чацвёртым паверсе. Давялося эвакуіраваць амаль 700 чалавек. Ніхто не пацярпеў. Мяркуецца, што прычынай пажару стала замыканне праводкі ў халадзільніку.

**Загінула дзіця**

У Барысаўскім раёне «Рэно» разварочвалася і не прапусціла сустрэчны «Форд». Каб пазбегнуць аварыі, кіроўца «амерыканца» з'ехаў у кювет і перакуліўся. У выніку ў «Фардзе» загінуў хлопчык 2010 года нараджэння, які не быў прышпілены ў дзіцячым крэсле. Заведзена крымінальная справа.

**Кантрабанда на $2,4 мільёна**

Буйную партыю запчастак для аўтамабільных тахографаў канфіскавалі ў памежным пункце «Каменны Лог». Кантрабанду на суму 24 мільярды рублёў з Літвы ў Беларусь правозілі пад выглядам панцырнай тканіны, гранітнай пліты і запасных частак для тахографа.

**Чатырох сяброваў збіў грузавік**

У Мінску на Партызанскім праспекце ў выніку прарыву водаправоднай трубы затапіла падземны пераход. Чатыры жанчыны вырашылі не ісці да іншага перахода, а тут жа рушылі праз праезную частку. У выніку ўсе трапілі пад грузавік, але засталіся жывыя.

**Згарэла пяць «немцаў»**

У Мінску на вуліцы Янкі Брыля невядомы ноччу падпаліў «Фальксваген-Пола» 2013 выпуску. Ад яго загарэліся «Фальксваген-Бора», «Мэрсэдэс-124», «Фальксваген-Пасат» і «БМВ-520» — усе «немцы». Вінаватага шукаюць.

**КМ**

# Міс Беларусь стала Вікторыя Мігановіч са Смаргоні



Дзявяты конкурс «Міс Беларусь» меўся прайсці пад пільным позіркам Лукашэнкі. Прэс-служба АНТ папярэджвала пра гэта, але кіраўнік дзяржавы пакінуў конкурс без сваёй увагі, і ўсё пайшло па стандартным фармаце конкурсу, дзе абіраюць самы саладзенькі «твар краіны». Напачатку пятнічнага эфіру па АНТ публіку разаграваў вядучы, папярэджваючы, што «трэба быць вясёлымі і ўсміхацца». Свае месцы займалі члены журы: алімпійскі чэмпіён Кушнір, «Міс Беларусь — 2012» Юлія Скалковіч, гендырэктар АНТ Рыгор Кісель... У VIP-зоне храбусцелі цэлафанам букетаў запрошаныя госці.

Пад радыёперамовы рэжысёраў пачынаецца эфір, і па сцэне, асветленай пражэктарамі і экранамі, пабеглі прыгажуні. 26 беларусак з усіх куткоў краіны. Сярод вядоўцаў шоу вылучаўся Дзяніс Кур'ян, які жартаваў пра чэмпіянат свету па хакеі ў Мінску і заклікаў перажываць за дзяўчат.

Усе чакалі выхаду ў купальніках... Пасля гэтай самай топавай часткі конкурсу фіналістак засталося толькі 10. Купальнікі ў дзяўчын былі больш стрыманыя, чым на конкурсе «Міс Мінск». Усяго выхадаў кандыдатак было пяць: у сукенках з кветкамі, два разы ў купальніках, вячэрніх строях і форме бортправадніц.



І вось зноў усе 26 кандыдатак на сцэне і чакаюць абвяшчэння вынікаў. Пераможцай у намінацыі «Міс топ-мадэль» названа Вікторыя Васілеўская (Мінск), «Міс фота» — Яня Ждановіч ( Бабруйск). Міс глядацкіх сімпатый па выніках інтэрнэт-галасавання стала Вераніка Батвянкова (Магілёў). Удзельніцы конкурсу таксама абралі пераможцу ў намінацыі «Міс сяброўства», якой стала Ангеліна Нярушкіна (Магілёў).

Медсястра Вікторыя Мігановіч свой тытул «Міс Беларусь — 2014» сустрэла без празмерных эмоцый. Зверху са столі паляцела канфеці... Прыгажуня выбраная. Да сцэны праціскаецца мускулісты малады чалавек... Вікторыя нахіляецца да яго і цалуе — гэта яе блізкі сябар. Адыходзячы ад сцэны, ён размаўляў па тэлефоне: «Наша Віка перамагла. Уся Смаргонь святкуе. Заўтра трэба рэстаран здымаць і тусавацца, але можа нельга будзе Міс Беларусь моцна галівудзіць?»

**Сяргей Гудзілін, фота аўтара**

# Канец эры антыбіётыкаў?

Важныя лекі **перастаюць працаваць**.



Сусветная арганізацыя аховы здароўя апублікавала даследаванне, вынікі якога не могуць не трывожыць.

Дадзеныя СААЗ паказваюць рост устойлівасці мікраарганізмаў да антыбіётыкаў па ўсім свеце. У дакладзе ўказваецца, што менавіта рэзістыўнасць узбуджальнікаў захворванняў да антыбіётыкаў можа стаць галоўнай пагрозай здароўю чалавецтва.

У дакладзе адзначаецца, што «канец эры антыбіётыкаў — калі простыя інфекцыі ці нязначныя траўмы могуць прыводзіць да смерці — надзвычай верагодны сцэнар у XXI стагоддзі».

СААЗ зрабіла аналіз дадзеных па ўстойлівасці кішэчнай палачкі, клебсіела пнеўманіі, залацістага стафілакока, пнеўмакока, узбуджальнікаў нетыфознага сальманэлёзу, шыгелы і ганакокаў да антыбіётыкаў. Дадзеныя для даследавання былі атрыманыя са 114 краінаў свету, і ва ўсіх рэгіёнах было зафіксавана зніжэнне эфектыўнасці антыбіётыкаў у дачыненні да ўсіх сямі інфекцый.

Напрыклад, устойлівасць кішэчнай палачкі, якая можа выклікаць урынаінфекцыі і заражэнне крыві, да антыбіётыкаў групы фторахіналонаў ужо сёння перавысіла 50%. У 1980-я, калі фторахіналоны пачалі выкарыстоўвацца ў медыцынскай практыцы, супраціўляльнасць кішэчнай палачкі была блізкая да нуля.

Сітуацыя ўскладняецца і тым, што цягам апошніх 30 гадоў не было распрацавана ніводнага прынцыпова новага тыпу антыбіётыкаў. Таму прыярытэтнаю стала неабходнасць максімальна памяншаць ужыванне антыбіётыкаў, каб запаволіць працэс прыстасоўвання мікраарганізмаў. Другім важным момантам з'яўляецца прафілактыка інфекцыйных захворванняў: найперш вакцынацыя і асабістая гігіена.

**Кірыла Хілько**



**Камертон Сяргея Ваганава**

## А 7-й вечара пасля вайны

Прамільгнула звестка, што ў Мінску распачынае прадстаўленні цырк шапіто. Ужо нават прывезлі сланоў...

Шапіто... Шапіто...

Так, цырк завецца шапіто. Ён сапраўды падобны да слана — вялікі, шэры і варушыцца.

Сланоў вядуць з Таварнай станцыі па Маскоўскай вуліцы. Яны плывуць паміж крушняў, нібы аэрастаты.

Маскоўская выкладзена брукаванкай. Ужо пачынаюць квітнець старыя каштаны. Значыць, хутка па вуліцы зноў будуць грукатаць танкі. Першага мая, парад...

А пакуль паважна плывуць сланы. Палахлівa спыняюцца перад Заходнім мостам, уздымаюць хобаты, трывожна трубяць...

Сланоў вядуць у цырк шапіто. За імі — пацаняты і пацаны, дзяўчынкі ў стракатых сукенках. Такі вось дзіцячы парад. Пакуль дойдуць да парку, да ракі — суцэльны натоўп...

А там, у парку, за ракой, ужо нацягнуты цёмна-шэры купал. І да нешматлікіх святаў пасляваеннага дзяцінства дадаецца яшчэ адно — цырк.

А 7-й вечара — першае прадстаўленне. Трэба паспець заняць месцы на дрэвах, каб хоць нешта пабачыць праз шчыліны. І дачакацца антракту.

У антракце ўсе гледачы выходзяць на вуліцу, да ракі, нетаропка ласуюцца марожаным. І вось тады можна папрасіць: «Дзядзечка, правядзіце». Калі-нікалі гэта спрацоўвае. І вось мы ўжо сядзім побач з новымі «татамі» і забываемся на ўсё. Нават на марожанае, што застаецца ад добрых «татаў»...

Які гэта дзівосны, казачны свет! Уся ў зорках узлятае пад самы купал дзяўчынка. А там, у прагале, бачна неба, і здаецца, што дзяўчынка ўзлятае ажно да яго. Раптам дождж, кроплі барабаняць па купале, падаюць на арэну, нават на твар, калі шанцуе сядзець побач з манежам. Шанцуе, бо на манежы з'яўляецца клоўн з сабачкам Кляксай. Клоўна клічуць Карандаш. І гэта цудоўна — сядзець у першым шэрагу і катацца ад рогату, і лічыць, што Карандаш смешыць толькі цябе. А ён часам і насамрэч нязграбна пералазіць праз бар'ер і выкідвае з табой нейкую штуку... «Ведаеш, хто гэта?» — пытаецца аднойчы матуля і паказвае на высокага складнага мужчыну, што прагульваецца з сабачкам уздоўж Свіслачы. — Гэта Карандаш, ягонае сапраўднае прозвішча Румянцаў...» Не, Карандаш застаецца на манежы...

Нарэшце, выводзяць сланоў. Аркестр грае вальсы, сланы таньчаць, круцяць хобатамі і раскланьваюцца. Паміж імі лётае маленькі чалавечак, ляскае па хобатах, частуе цукрам... Потым цішыня, нарастае барабанны дробат... Чалавечак кладзецца пад самага вялікага слана, каб усе думалі, што слон вось-вось яго расплюшчыць. І, сапраўды, слон павольна апускаецца ўсё ніжэй і ніжэй... Але чамусьці шкада слана, а не таго чалавечка...

### Яны пойдуць у свой цырк, нашы дзеці, унукі і праўнукі »

Бліжэй да восені цёмна-шэры купал выцвітае ад сонца і дажджоў. У парку аблятае лісце, па ім стукаюць халодныя кроплі. Купал здымаюць і, здаецца, звозяць кудысьці далёка. Хаця, магчыма, ён і застаецца ў горадзе...

Міне шмат часу. Пачнуць будаваць новы цырк, ці не самы буйны ў Еўропе. Мы, студэнты, таксама працуем на будоўлі. Аднойчы нас накіроўваюць прыбраць будаўнічае смецце з падстрэшша. То бок з-пад купала. Я пераадольваю салодкую хвалю страху і гляджу ўніз.

Мабыць, так глядзяць з вышыні жыцця ўспаміны.

А потым нас запрашаюць на першае прадстаўленне. Але гэта ўжо іншы цырк, без прагала ў купале, праз які бачна неба. Ад шапіто застаўся толькі пах. Ледзь вільготны пах пілавіння і конскага поту...

Апошнім разам цырк вернецца да мяне з Юрыем Нікуліным, мо ў 1965. Ён з'явіўся — і ўсе засмяяліся. Ён не смяяўся, проста глядзеў на ўсіх троху вінаватым і адначасова дапытлівым поглядам. І ўсе засмяяліся яшчэ мацней... Цесны чорны пінжачок, кароткія ў палоску нагавіцы, белая кашуля з гальштукам і пляскаты, нібы талерка, капялюш...

Ужо прайшоў на экранах фільм «Когда деревья были большими», ці не першы праўдзівы фільм пра драму чалавека, які перажыў вайну. І ў цырку Нікулін быў куды бліжэйшы да свайго Кузьмы Іарданава з таго фільма, чым да традыцыйна-звыклага «кіношнага» Балбеса. Так, нібыта гаворыць ягоны герой, я смешны, нязграбны, зорак з неба не хапаю, люблю груба паджартаваць і выпіць... Але гэта таму, што мне не шанцуе ў жыцці. Часам я прашу вас пакінуць мяне ў спакоі. Але, паверце, у мяне добрае сэрца. Як і вы, я маю права на чалавечыя пачуцці. І я больш не хачу ваяваць...

Усё сапраўднае мастацтва — літаратура, кіно, жывапіс — вынікала з гэтай усеабдымнай прагі жыцця.

Праз дваццаць гадоў пасля вайны.

Праз сорак...

Праз 70 гадоў у мяне знянацку, між іншым, пытаюцца, ці думаў я, што дажыву да новай вайны.

Праз 70 гадоў у Мінску ладзіцца дыскусія аб тым, «наколькі сур'ёзна выглядае цяпер пагроза баявых дзеянняў для Беларусі і якія наступствы выклікае выкарыстанне ядзернай зброі».

Якраз падчас цудоўнай красавіцкай навіны пра цырк шапіто.

Так, яны пойдуць у свой цырк, нашы дзеці, унукі і праўнукі.

Дай Бог ім шчасця дажыць да 7-й вечара пасля вайны.

А мяне чакаюць мой цёмна-шэры купал у старым парку і мае пацаны на дрэвах — праз шчыліны ў купале можна нешта пабачыць.

Калі прыжмурыцца.

*kamerton_41@mail.ru*

# Партрэт беларускага хакеіста

Які ён, беларускі хакеіст? Напярэдадні чэмпіянату свету па хакеі мы размаўляем з журналістам сайта by.tribuna.com **Іванам Грунтовым**.




Хакеіст сярэдняй рукі ў Беларусі зарабляе ў месяц да 2 тысяч даляраў

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«Наша Ніва»: Ёсць меркаванне, што хакей — дарагі від спорту і не кожны ахвотны можа ім пачаць займацца.**

**Іван Грунтоў:** Амаль праўда. На хакей сапраўды трэба вялікія грошы. Таму можна казаць, што хакей — элітны спорт. Разам з тым, ёсць школы, у якія можна трапіць абсалютна бясплатна, даюць экіпіроўку, вядуць некалькі гадоў маладых хлопцаў. Праўда, такіх школ няшмат.

**«НН»: Хлопец з вёскі можа стаць хакеістам?**

**ІГ:** Можа, асабліва цяпер, калі адчыняюцца лядовыя палацы ў невялікіх гарадах. Канечне, яму давядзецца купіць першыя канькі, форму. Шмат залежыць ад абставінаў, ці не надакучыць яму ездзіць у горад на трэніроўку замест таго, каб гуляць у камп'ютарныя гульні.

**«НН»: Колькі каштуе камплект хакейнай дзіцячай формы?**

**ІГ:** Прыкладна 800 даляраў. Дзіця расце хутка, форму даводзіцца мяняць.

**«НН»: А чаму беларусы ідуць у хакей?**

**ІГ:** Гэта дынамічны і цікавы спорт. Ён развівае характар, вынослівасць. Калі займацца прафесійна, то гэта абавязкова выльецца ў праблемы са здароўем. Здараецца, што да 30 гадоў спартсмен — амаль інвалід. Але гэта не толькі праблема хакея, а ўсяго прафесійнага спорту. У нас у краіне фон вакол хакея створаны даволі негатыўны...

**«НН»: Як негатыўны? Яго называюць нацыянальным відам спорту.**

**ІГ:** Так толькі называюць... Калі прыбярэм мінскае «Дынама», дзе ёсць арэна, сродкі, заўзятары, то ў астатнім хакеі сітуацыя сумная. Клубны беларускі хакей нашмат менш папулярны за футбол. І лічбы даволі ўнушальныя.

**«НН»: Людзі ходзяць на матчы беларускага хакея?**

**ІГ:** Раней хадзілі. Цяпер праблемы з наведвальнасцю маюць нават такія гарады, як Гомель, Жлобін. На чэмпіянат усе «забілі». Усе глядзяць толькі на «Дынама» і зборную. Калі ў Жлобіне была чэмпіёнская каманда, то там хадзіла больш за 2 тысячы чалавек, цяпер каля тысячы. У Гомелі добрая каманда, някепскі палац, але цікавасць вельмі ўпала. Такая штука, што лядовы палац і клуб — гэта не адна і тая ж структура. Таму клубы не запраўляюцца наконт запаўняльнасці трыбунаў.

**«НН»: У хакеі часта можна пабачыць гульцоў, якім за 40. У футболе ці баскетболе такіх няма амаль.**

**ІГ:** Важна, як чалавек ставіцца да сябе. Як працуе, як займаецца сабой. Калі ён не дазваляе сабе лішняга, не курыць, не забівае на трэніроўкі, то ён можа гуляць і да 45 гадоў, як Цiему Сяляне ці Ярамір Ягр. Ёсць такі малады хакеіст Артур Гаўрус, ён адданы спорту, малайчына, але не шанцуе — адзін сезон выпаў праз траўму, другі. Яму цяжка будзе такога ўзросту дасягнуць.

**«НН»: Хакей больш траўманебяспечны від спорту, чым футбол?**

**ІГ:** Ды не, хаця там больш сілавой гульні, больш боек.



**Іван Грунтоў**

Хакейны аглядальнік сайта by.tribuna.com. Нарадзіўся ў 1987 у Мінску.

**«НН»: Кажуць, што хакеісты ходзяць без зубоў.**

**ІГ:** Ёсць такія. Зубы — гэта не самае страшнае. Больш страшна мець праблемы з нагамі, з пахам, з каленямі. Страсенні мазгоў — сур'ёзная праблема.

**«НН»: Вы ўжо згадвалі пра кепскія звычкі. Беларускі хакеіст парушае рэжым?**

**ІГ:** Ёсць такія прыклады. Мне не падабаецца, што гэта найперш моладзь. Цяпер ва ўсіх ёсць

## Дзіцячая экіпіроўка каштуе 800 даляраў

акаўнты ў сацыяльных сетках, і гэта можна бачыць. Людзі не спрабуюць развівацца ўсебакова, у іх няма інтарэсаў... Калі ты хакеіст, то табе трэба адпавядаць гэтаму званню. Ты не проста мордаварот, які раскідвае ўсіх на пляцоўцы і закідвае шайбы, ты — чалавек, за якім сочаць, публічная персона. Як музыка, пісьменнік, палітык. Але добрых хлопцаў таксама многа. Яны развіваюцца, даведваюцца нешта пра жыццё.

**«НН»: Пра адпачынак футбалістаў у клубе «Дазары» ходзяць легенды. А дзе тусуюцца хакеісты?**

**ІГ:** Там жа *(смяецца)*. Ёсць яшчэ знакаміты клуб «Овертайм».

**«НН»: Беларускі хакеіст рана заводзіць сям'ю?**

**ІГ:** Рана. Пасля 20 гадоў многія ўжо з сем'ямі. Ім, мабыць, прыемна вяртацца дадому да сям'і са складаных збораў.

**«НН»: Усе ведаюць, што беларускі хакеіст зарабляе многа, але мала хто — колькі менавіта?**

**ІГ:** Канечне, гэта вялізныя грошы для шараговых беларусаў. У чэмпіянаце Беларусі сярэдняй рукі хакеіст можа зарабляць 2 тысячы даляраў. У КХЛ зусім іншыя сумы. Там мінімальная планка заробкаў складае 140 тысяч даляраў у год. Столькі атрымліваюць у мінскім «Дынама». Менш нельга.

**«НН»: А хакеіст чэмпіёна Беларусі «Нёмана» колькі зарабляе?**

**ІГ:** Я б таксама хацеў ведаць *(смяецца)*. У іх дакладна паменшылі сёлета заробкі, таму многія хочуць з'ехаць у Расію, ва Усходнюю хакейную лігу.

**«НН»: Беларускі хакеіст марыць з'ехаць за мяжу? Ці яму ўсё добра дома?**

**ІГ:** Яны едуць туды, дзе можна зарабіць. Я з большай павагай

## Ёсць хакеісты, што цудоўна разумеюць палітычную сітуацыю

стаўлюся да хлопцаў, якія з'язджаюць у ЗША і Канаду, у мінорныя юніёрскія лігі. Гэта паказвае, што яны хочуць чагосьці дасягнуць, а не проста зрубіць бабла. У нас 18-гадовы хакеіст свабодна можа зарабляць тысячу даляраў.

**«НН»: Няўжо ў ЗША не можа?**

**ІГ:** Не, канечне. Ён атрымае поўны пансіён, але на кішэнныя грошы — дробязь. Пакуль ён не падымецца да НХЛ ці АХЛ, грошай ён не будзе мець. Але я б не абвінавачваў тых, хто едзе ў Расію. Кожны марыць шмат зарабляць.

**«НН»: Хакей называюць «палітычным» відам спорту. А хакеісты маюць грамадзянскую пазіцыю?**

**ІГ:** Не ўсе, але ёсць і такія. Публічных крытыкаў няма. Ёсць тыя, што гуляюць за прэзідэнцкую каманду — яны, ясна, не скажуць нічога. Але ёсць і такія, што цудоўна разумеюць сітуацыю, толькі публічна не выказваюцца.

**«НН»: Кім беларускі хакеіст становіцца пасля скачэння кар'еры?**

**ІГ:** Ці бізнэсоўцам, ці трэнерам. Бізнэсоўцам ён становіцца, бо хапае грошай, заробленых за кар'еру. У каго няма такой прадпрымальніцкай жылкі, ідуць у трэнеры. Кавалёў, Макрыцкі, Гусаў, Скабелка — добрыя трэнеры. Бізнэсменаў я магу назваць пару імёнаў, але яны прасілі не называць. Ёсць Павел Белы, Генадзь Савілаў — гэта ўсім вядомыя прозвішчы.

**«НН»: Перспектывы ў беларускага хакеіста ёсць?**

**ІГ:** Калі ёсць жаданне, то канечне. Нават без асаблівага таленту беларускі хакеіст можа дасягнуць поспеху. Нават у мінскім «Дынама» ёсць хлопцы не таленавітыя, але ў іх ёсць мэтанакіраванасць, працаздольнасць. І яны зарабляюць добрыя грошы. У беларускага хакеіста ёсць будучыня. Калі нехта задумваецца, ці аддаваць дзіцё ў хакей, — так, аддавацъ.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

# Выбар і лёс народа. Чытаючы Карла Маркса

Споўнілася 196 год з дня нараджэння Карла Маркса, «філосафа II тысячагоддзя», як яго назвалі не пераломе тысячагоддзяў і стагоддзяў. Можна ўявіць, колькі памяняў вывьюць на галаву Маркса на 200-годдзе, у 2018-м, але ніхто не скажа: марксізм памёр. Калі ў канцы 2000-х пачаўся (дарэчы, прадказаны марксістамі) крызіс, «Капітал» зноў стаў адной з самых запатрабаваных кніг, а яшчэ раней парыжскі часопіс *Le Nouvel Observateur* абвясціў Маркса філосафам XXI стагоддзя.

Помніцца, як у канцы мінулага стагоддзя за нейкім круглым сталом ішоў абмен думкамі пра тое, які тып дзяржавы, грамадскага ладу ствараецца ў Беларусі пасля прэзідэнцкіх выбараў 1994-га і перавароту 1996-га. І хтосьці прамовіў слова «банапартызм». Тыя, хто чытаў Маркса, адразу ўспомнілі ягоную працу «18 брумэра Луі Банапарта», якую я настойліва раю маладым тавырышам як узор палітычнай аналітыкі. У той працы ёсць нават пра латарэйны бізнэс, якім займаліся ўладныя банапартысты. І пра парламент, які сам капаў сабе магілу. Пра дээзерцірства дэпутатаў. І парламенцкі крэтынізм. І такое: «Парламент выказаўся за Банапарта, але канстытуцыя выказалася супраць парламента». Рыхтык як у нас. Толькі замест прозвішча Банапарт трэба іншае.


Напалеон III пасля Седанскай паразы ў палоне ў нямецкага канцлера Бісмарка.

Калі я чую, што ад амерыкана-еўрапейскіх санкцый не павінен цярпець народ, то кажу: народ і так церпіць. Церпіць не толькі народ (у Маркса — пралетарыят), церпяць і вышэйстаячыя пласты, бо кожная нацыя жыве так, як яна галасуе. Ад яе выбару, бывае, залежыць саме яе існаванне. Маркс, які бачыў, што Шарль Луі Напалеон Банапарт хоча стаць імператарам, пісаў: «Нацыі, як жанчыне, не даруецца хвіліна прамашкі, калі першы стрэчны авантурыст можа ўчыніць адёю гвалт». Выбраўшы прэзідэнтам Рэспублікі маленькага пляменніка вялікага дзядзькі, французы самі запраграмавалі паліцэйскі рэжым, Седанскую катастрофу 1870-га, 5-мільярдную кантрыбуцыю золатам на карысць Прусіі, страту Эльзаса і Латарынгії... Чытач можа падоўжыць спіс падобных памылак народаў у новай і найноўшай гісторыі.

Луі Банапарт ніколі б не выплыў на паверхню палітычнага жыцця, калі б не рэвалюцыя 1848-га. Гэта заканамернасць: у час грамадскіх узварушэнняў на паверхню выплываюць падонкі. Ці ўдасца ім затрымацца на паверхні, зноў жа, залежыць ад настрояў нацыі. Кожная рэвалюцыя нясе сацыяльна-эканамічную нявэўнасць. Галоўнае пытанне, якое мучыць масавую свядомасць: ці не будзе заўтра горш, чым учора? Не свабода выказванняў, сходаў і аб'яднанняў патрэбная перш за ўсё масе, а гарантаваны дабрабыт. «Ад небяспекі рэвалюцый», піша Маркс, французаў «пацягнула назад да егіпецкіх катлоў з мясам». Чытач можа падоўжыць спіс народаў, якія гэтак, як і французы, вышэй за правы і свабоды паставілі матэрыяльныя інтарэсы, захацелі — дзеля катлоў з мясам — вярнуцца ў егіпецкі палон.

Не, яны ані не думалі, што вяртаюцца ў рабства. Звычайнай свядомасці ўласцівыя дзве рэчы: ідэалізацыя мінуўшчыны і абераця памяці. Французам мроілася веліч іх краіны ў час панавання Напалеона I, немцам, асабліва ў перыяд сусветнага крызісу, — веліч Германіі да паразы 1918-га. Іншыя народы трызнілі, напрыклад, каўбасою за 2 рублі. У выніку ж «народ... аказваецца перанесеным назад, у памерлую эпоху», «уваскрасаюць старыя даты, старое летазлічэнне, старыя імёны, старыя эдыкты... і стараржымныя, здавалася б, даўно сатлелыя жандары».

Выбар французаў, канстатаваў Маркс, прывёў да таго, што «рэвалюцыя знікае ў руках лоўкага шулера, і ў выніку знішчанай аказваецца ўжо не манархія, а тыя ліберальныя саступкі, якія былі адваяваныя ў яе». Чытач можа падоўжыць спіс народаў, якія ўчынілі тое, што і французы ў снежні 1848-га.

# Зянону Пазняку — 70


Зянон Пазняк падчас мітынгу салідарнасці з Украінай у Нью-Ёрку.

24 красавіка 70 гадоў споўнілася заснавальніку Беларускага Народнага Фронту «Адраджэнне» і аднаму з бацькоў беларускай незалежнасці Зянону Пазняку. З гэтай нагоды на сайце nn.by быў надрукаваны артыкул Сяргея Навумчыка «Час Пазняка». Вось некаторыя каментары да гэтага матэрыяла.

Далучаюся да ўсіх віншаванняў, усе Вашыя прадказанні і сцвярджанні збываліся і збываюцца. Божага дабраславення на ўсё Вашае жыццё і сям'ю! Я Вам заўсёды верыла,бо сказанае было праўдай!

**Вольга Цярэшчанка, Гомель**

Шаноўны Зянон Станіслававіч! Найлепшыя пажаданні. Вы такі самы, можа нават «магутнейшы», ад 1975-а, як мы пазнаёміліся на раскопках у Мінску. Праца разам з Вамі — і навука, і жыццё, якое заўжды з намі. Што казаць, невядома, як будзе наперадзе. Аднак пэўны, што не горш, чым было ўчора і на заўчора. Назаўжды! Духоўнай моцы, палітычнай сілы, мастацкага слова і вока!!!

**Сяржук Тарасаў**

Шаноўны Зянон Станіслававіч! З юбілеем! Шчырыя пажаданні ў Дзень нараджэння! Здароўя, дабра Вам. Няхай здзейсняцца ўсе Вашы мары!

**Н.Малчанава, І.Ганецкая, археалогія, пакой 306**

Шчыра віншую! Жадаю доўгага жыцця, хутчэйшага вяртання на Радзіму, у вольную Беларусь!

**Кастусь Алешка**

Спадару Зянон! Шчыра віншую. Хай Вас Бог блаславіць! Здароўя, шчасця і абавязкова дажывіце да 100-гадовага юбілею!

**Сяргей Гіркін**

Зянон Станіслававіч, найлепшыя пажаданні!

**Валянцін Голубеў**

Віншую, спадар Зянон! Зычу Вам здароўя. Няхай Пан Бог атуліць Вас сваёй апекай і дапаможа ў змаганні за вольную Беларусь.

**Зіна Скавародкіна**

Шчыра віншую Вас, пан Зянон, з Днём нараджэння! Зычу Вам моцнага здароўя, няскоранасці духу, плёну ў працы на карысць Бацькаўшчыны. Беларусь чакае Вас!

**Жухоўскі**

Шаноўная рэдакцыя, дазвольце праз Вашу Старонку шчыра падзякаваць усім чытачам за прыхільныя словы і віншаванні ў сувязі з 70-мі ўгодкамі з дня нараджэння. Жыве Беларусь!

**Зянон Пазняк**

# Анатоль Тарас і Парнас

Тэкст пад такім загалоўкам апублікаваў на NN.BY гісторык Аляксандр Краўцэвіч. Ён аналізуе «Краткий курс истории Беларуси» Анатоля Тараса.

«Для мяне лектура названай кнігі была нагодай яшчэ раз праверыць дакладнасць прыкметаў, па якіх хутка, за некалькі хвілінаў, разпазнаецца праца дылетанта, — піша Краўцэвіч. — Вось яны ў табліцы:

| Першасныя прыкметы дрэннай кнігі па гісторыі Беларусі | Кніга А.Тараса |
|---|---|
| Адсутнасць гістарычнай адукацыі (навуковай ступені) у аўтара | так |
| Адсутнасць навуковага рэдактара і рэцэнзентаў | так |
| Катэгарычнасць выказванняў | так |
| Адсутнасць спасылак на працы іншых аўтараў | так |
| Расейская мова | так |

Гэтыя прыкметы не спрацоўваюць паасобку, але спраўджаюцца ў комплексе.

...Працы А.Тараса перапоўненыя патрыятычнымі лозунгамі, але напісаныя на нізкім, дылетанцкім узроўні, не падтрымліваюць, а хутчэй дыскрэдытуюць беларускі патрыятызм.

...Мы, гісторыкі, вінаватыя перад беларусамі за тое, што не спраўляемся са сваёй місіяй — гістарычнай асветай грамадства. Мусім пісаць сінтэзы і папулярныя працы. Інакш нашае месца пачнуць займаць эрзац-гісторыкі са сваёй эрзац-гісторыяй», — піша Краўцэвіч.

Артыкул выклікаў бурнае абмеркаванне ў каментарах на сайце.

Тараса можна і трэба крытыкаваць з акадэмічнага боку, дзе ён там у чым няправы, але ж падыход яго — адзіны, што можа выжыць на рынку ідэй.

**JJ**

У канцы 1980-х чалавекам, што ўзбудзіў цікавасць дзясяткаў тысяч беларусаў да гісторыі быў філолаг Мікола Ермаловіч. Ён таксама непрафесійна вызначыў межы старажытнай Літвы. Але... грамадства масава захварэла на гісторыю. У гістарычнай навуцы суіснуюць абодва накірункі — прафесійны і непрафесійны. Калі знішчыць дылетанцкі кірунак — знікне і прафесійны...

**Мікола А.**

У чым увогуле праблема? Не падабаюцца кніжкі Тараса — напішыце лепш. Ды яшчэ знайдзіце магчымасць распаўсюдзіць іх па ўсіх асноўных кнігарнях. І каб іх ахвотна набывалі.

**Голас з цэмры**

Звычайнага грамадзяніна не вельмі цікавяць драбноты, хто, дзе і як згубіў свой гістарычны гузік, яго цікавіць агульная гістарычная хада, хто мы, адкуль мы ўзяліся, адкуль наш род? Гэта для нас жыццёва важна сёння! І Анатоль Тарас дае адказы на гэтыя пытанні.

**Мінак**

Наконт — «Мы, гісторыкі, не спраўляемся са сваёй місіяй — гістарычнай асветай грамадства» — не згодны. Асабіста я не ў стане прачытаць тое, што выдаюць толькі беларускія выдавецтвы — «Arche», БГА ды інш. Не кажучы пра часопісы і пераклады.

**Simpson**

Тарас — графаман і плагіятар. Шкада людзей, якія замест сур'ёзнай літаратуры чытаюць гэтую макулатуру.

**ewq**

Сёння друкаваць падтасоўкі гістарычных фактаў — гэта аб'ектыўна ліць ваду на млын імперскіх гісторыкаў з Расіі («у белорусов істориі нет — есть только выдумкі іх націоналістов») і тутэйшых гігінных.

**Reller**

«Памяць пра легенды» Тарасава, «Дзесяць вякоў беларускай гісторыі» Арлова і Сагановіча, «Таямніцы полацкай гісторыі» Арлова, «Уладары Вялікага Княства» Чаропкі, «Паланэз для касінераў» Емяльянчыка, «Ці ведаеце вы гісторыю Беларусі?» Лойкі, Голубева і Крука і інш. Першыя чатыры пазіцыі ёсць і парасейску. У гэтых кніжках я бачу ўзор папулярнага выкладу падзеяў беларускай гісторыі, які не супярэчыць гістарычным фактам і дакументам.

Адказ на пытанне, хто «больш карысны» — Анатоль Тарас ці Алесь Краўцэвіч. Для навукі — бясспрэчна, Краўцэвіч. Для стварэння вобразаў ворагаў — бясспрэчна, Тарас. А любую кніжку, між тым, трэба чытаць з галавою.

**Лявон Баршчэўскі**

Пытанне аб «прафесіяналах» і «папулярызатарах» паўстала даўно. Але калі казаць аб ступені вядомасці ў «шырокіх колах» тых і іншых, то яно (пытанне) заўсёды вырашалася на карысць папулярызатараў. Асабіста я называю сябе «пісьменнікам, які піша на тэмы гісторыі», а не гісторыкам. Хоць у 1972 годзе скончыў гістарычны факультэт БДУ.

Так што справа зусім не ў тым, маю я рацыю ці не ў тых ці іншых пытаннях. Прычыны нянавісці да маёй персоны з боку пэўнай часткі пішучай публікі заключаюцца ў іншых прычынах. Вось галоўныя з іх:

1) Зайздрасць да паспяховага аўтара, які бесперапынна піша кнігу за кнігай і якому ўдаецца выдаваць іх вялікімі (для Беларусі) накладамі.

2) Катэгарычнасць меркаванняў (я гэта раблю адмыслова: калі «бляяць авечкай», як Краўцэвіч і кампанія падобных яму, шырокая публіка чытаць не стане — нецікава).

3) Маё рэзка негатыўнае стаўленне да шматлікіх «сучасных адраджэнцаў», якіх не саромеюся называць гультаямі, балбатунамі і г.д.

Дык вось, аб узніклай дыскусіі. Яна бясплодная. Хоць бы таму, што я працягваю сваю дзейнасць, не звяртаючы ўвагі на пасквілі. А Краўцэвічам пагарджаю (хай ён двойчы прафесіянал ) за прадажнасць. Ён , што цалкам натуральна, плаціць мне сваёй нянавісцю. Так што мы квіты .

У заключэнне адна дэталь пра «выдатнага гісторыка» Краўцэвіча. Яго кандыдацкая дысертацыя на рускай мове, якую ён абараніў у Маскве ў 1988 годзе, называлася «Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV —XVII стагоддзяў. Планіроўка , культурны пласт». Няўжо нехта з «шаноўнай публікі» здольны чытаць гэтую тужлівую «аповесць», горда званую «сапраўднай навукай»?!

**Анатоль Тарас**

Палеміка на ўзроўні «сам дурак» — гэта не еўрапейскі, а чыста расейскі спосаб яе вядзення. Трэба перамагаць аргументамі, а не ярлыкамі.

**Лявон Баршчэўскі**

«Ад самага пачатку чытання кнігі непрыемна ўражвае агульная танальнасць аповеду. На чытача адразу выплёскваецца хваля агрэсіі».

Абсолютно согласен. Меня поразила тенденциозность и агрессивность Тараса. Объективность исключает подобную манеру. Для историка это непростительно.

**Игорь**

# Украіна стала фаварытам «Еўрабачання», а ў Беларусь букмекеры не вераць

4 мая на сцэне B&W Hallerne ў Капенгагене адбылося адкрыццё 59-га песеннага конкурсу «Еўрабачанне». У конкурсе будуць удзельнічаць прадстаўнікі 37 краін. Дэвіз сёлетняга «Еўрабачання» — «Далучайся да нас» (JoinUs). Фінал конкурсу пройдзе 10 мая (субота).

Беларусь (выканаўца Тэа) будзе ўдзельнічаць у другім паўфінале (чацвер), пад нумарам 10. Але букмекеры досыць нізка ацэньваюць яго шанцы. Букмекеры з William Hill, а гэтыя хлопцы рэдка памыляюцца, называюць галоўным фаварытам конкурсу прадстаўніка Арменіі Aram MP3. Яго шчымлівая песня Not Alone лідзіруе ў праглядах на Youtube, толькі афіцыйны ролік праглядзела больш за 2,6 млн чалавек.

На другое месца букмекеры паставілі шведскую спявачку Сане Нільсэн, на 3-е — прадстаўніка Даніі Басіма.

За апошнія дні, паводле William Hill, моцна выраслі шанцы ва ўкраінскай прыгажуні Марыі Ярэмчук (яна абышла Нарвегію, Брытанію і дагнала Данію).

Марыя — дачка знакамітага спевака 1970—пачатку 1990-х Назарыя Ярэмчука, які зрабіў украінскую песню мегапапулярнай у СССР. Менавіта «Чэрвона Рута» ў яго выкананні (спяваў спачатку з аўтарам У.Івасюком) стала хітом 1970 г.

І песня ў Марыі добрая, і сэрцы еўрапейцаў з Украінай у гэтыя неспакойныя майскія дні.

Расія, дарэчы, ужо настройваецца на тое, што яе «пракоцяць» на «Еўрабачанні» з-за далучэння Крыма і агрэсіі ва Украіне (букмекеры ацэньваюць шанцы сясцёр Талмачовых вельмі нізка).

Дарэчы, сёлета спаўняецца 40 гадоў, як на «Еўрабачанні» трыумфальна перамагла шведская ABBA з песняй Waterloo.

**Алег Гардзіенка**



Украінка Марыя Ярэмчук — дачка выканаўцы «Чырвонай руты»..

Водгук на зборнік Таццяны Мушынскай «Джульета і экстрасэнс». Піша **Наталка Бабіна**.

# Кніга для чытання пад пледам

У векавечнай спрэчцы пра тое, ці варта дзяліць літаратуру на жаночую і мужчынскую, кніга Таццяны Мушынскай «Джульета і экстрасэнс» падаецца важкім аргументам «за» такі падзел. Гэта менавіта жаночая літаратура ў самым добрым сэнсе. Гэтую кнігу найлепш чытаць вечарам, каля каміна, ва ўтульным фатэлі, абвярнуўшыся пухнатым пледам і з кубачкам язмінавай гарбаты. Кніга, безумоўна, спадабаецца. І найперш спадарыням.



Найбольш удалымі падаліся аповесці «Доўгае развітанне», «Апошняе каханне Дон-Жуана», «Джульета і экстарсэнс». Яны пра каханне. Галоўныя героі іх — спявачка, мастак, рэжысёрка — такія мілыя, чалавечныя ў сваіх маральных шуканнях, у выстройванні адносінаў з каханымі і некаханымі, у творчых пошуках... Нейкія нават ідэальныя, бязмерна чалавечныя, сапраўды літаратурныя, што, можа, такіх і на свеце не бывае. Але так хочацца, каб былі. І апісаныя так лёгка, пастэльна, што, чытаючы, любая жанчына сапраўды пагрузіцца ў іх свет і забудзе пра свае праблемы... Адпачне ў створаным пісьменніцай свеце, забыўшы пра ўсе беды і мітрэнгі рэальнасці.

Што ж, хіба гэта не можа быць мэтай для сапраўднай літаратуры і не прыкмета яе?

Яшчэ адна прыкмета сапраўднай літаратуры — бездакорны стыль спн. Мушынскай. Плынь аповеду цячэ спакойна, бы ручаёк, і, падаецца, нават чуеш ціхі плёскат гэтай чыстай вады.

Аповесць «Сад маіх успамінаў» — дакументальная, гэта аповед пра продкаў і гісторыю сям'і аўтаркі. І тут апісваюцца ўжо рэальныя, часам жорсткія і драматычныя падзеі, паўстаюць партрэты рэальных лю-дзей — з усімі іх недахопамі і вадамі. І гэта, насамрэч, досыць рэдкая з'ява для мемуарнай літаратуры. Бо часцяком аўтары мемуараў занадта «прычосваюць» сваіх герояў, робяць з іх іконы. Спн. Мушынская пазбягае гэтага. Але такая аповесць, надрукаваная побач з творамі зусім іншага жанру, трохі парушае стылёвае адзінства кнігі. Аповесць не тое што горшая за папярэднія мастацкія, але, можа, вартая таго, каб быць апублікаванай асобна.

Таксама ў кнігу ўваходзяць кароткія апавяданні, абразкі і мініяцюры, якія здольныя парадаваць прыхільнікаў гэтага жанру.

Шчыра кажучы, пачынала чытаць кнігу з пэўнай насцярогай. Але па меры чытання насцярога сыходзіла і змянялася радасцю за тое, што ўдалося адкрыць для сябе, безумоўна таленавітае імя ў беларускай літаратуры.

Выйшла кніга **Алены Мікульчык** «Лепшыя стравы беларускай кухні».

# Кухня на экспарт

Кніга, якая пабачыла свет у выдавецтве «Галіяфы», у першую чаргу разлічаная на замежных гасцей — у тым ліку тых, што хутка прыедуць на ЧС па хакеі. «Сувенір» выдадзены на расейскай і англійскай мовах і ўтрымлівае 40 рэцэптаў страў з бульбы, мяса і рыбы, а таксама выпечкі і напояў. Як сцвярджае спн. Мікульчык, усе рэцэпты былі адаптаваныя да сучасных умоў і прадуктаў і не раз спраўджаныя на практыцы, а фотаілюстрацыі ў кнізе — выключна аўтэнтычныя: стравы гатаваліся непасрэдна перад здымкамі.

«НН» пацікавілася, ці можна чакаць такой кнігі на беларускай мове. «Вядома, — адказала спн. Алена. — Хутчэй за ўсё, выйдзе яна ўвосень, меркаваная назва — «Старажытная беларуская кухня: што елі нашы продкі». У ёй будзе нашмат больш рэцэптаў — 120, і наогул яна будзе прынцыпова адрозніваецца ад дадзенага выдання, арыентаванага хутчэй «на экспарт».

Выданне сапраўды сувернірнае: цвёрдая вокладка, ламінаваная папера, «апетытныя» ілюстрацыі — кнігу прыемна трымаць у руках. Рэцэпты збольшага традыцыйныя: мачанка, пячыста, бліны, паляндвіца, — але ёсць і больш нязвыклыя, кшталту апельсінавых цукатаў ці крамбамбулі. Кожны рэцэпт суправаджаецца невялікай цікавосткай альбо перадгісторыяй пра паходжанне стравы. Працэс прыгатавання апісаны падрабязна і дакладна, многае хочацца паспрабаваць зрабіць самому.

Пераварочваем кнігу — і бачым тое ж самае па-англійску. Аўтарам перакладу значыцца Філ Уолклін — англічанін, які ўжо некалькі год жыве ў Беларусі. Падавалася б, за такі пераклад перад замежнымі гасцямі сорамна быць не павінна — але ўжо ва ўступнай прамове праскоквае некалькі яўных памылак. На вялікі жаль, недарэчнасці, памылкі і абрукоўкі нярэдка сустракаюцца і далей па тэксце. Узяць хаця б Belarusian і Belarussian, якія могуць стаяць побач на адной старонцы.

Больш за ўсё расчароўвае перадача на англійскую мову назваў страў. Дзіўная мяшанка перакладу з ці то транскрыпцыяй, ці то транслітарацыяй — прычым, насуперак усім правілам, з расейскай мовы.

Пытанні выклікаюць і некаторыя дэталі. Напрыклад, такая цытата: «Екатерина II очень любила борщ и заказывала его своим поварам каждый день». Наўрад ці расійская імператрыца — гэта той персанаж, згадкі пра якога хочацца бачыць у кнізе пра беларускую кухню, хай сабе і ў яе «экспартным» варыянце.

У цэлым жа можна сказаць, што любы крок да адраджэння нацыянальных кулінарных традыцый (як і любая спроба зацікавіць імі саміх беларусаў) важны і варты ўхвалення. Хацелася б толькі, каб выкананне ў такіх выпадках было дасканалым і бездакорным. А пакуль у спадзяваннях на лепшае пачакаем восені і беларускамоўнай версіі кнігі.

**Юлія Бальцэвіч**

## Сцісла

### Эдуард Акулін атрымаў «Глінянага Вялеса»

Уручэнне штогадовай літаратурнай прэміі прайшло ў кнігарні «Галіяфы». Акулін адзначаны за кнігу паэзіі «Святая ноч», якая выйшла да 50-годдзя аўтара. Туды ўвайшлі выбраныя творы з 6 кніг, а таксама зборнік «Радно», які ў свой час не пабачыў свет з-за цэнзуры і быў цалкам знішчаны. Акрамя вершаў, улічвалі грамадскую, папулізатарскую дзейнасць паэта: паездкі па Беларусі, сустрэчы з вучнямі. «Гліняны Вялес» — прэмія Таварыства вольных літаратараў, якая ўручаецца ўжо 16 гадоў. Яе лаўрэатамі былі Алесь Разанаў, Славамір Адамовіч, Уладзімір Някляеў, Людка Сільнова, Сяргей Дубавец.

**Мікіта Капкоў**

### «Ляпісы» сыграюць развітальны канцэрт у Кіеве 26 жніўня

Беларускі гурт « Ляпіс Трубяцкі» развітаецца з украінскімі прыхільнікамі вялікім канцэртам. Калектыў, які нядаўна заявіў, што спыняе сваё існаванне з верасня гэтага года, рыхтуецца да апошніх выступаў. Адзін з развітальных канцэртаў адбудзецца ў Кіеве.

Убачыць Сяргея Міхалка і «Ляпісаў» украінскія фанаты змогуць 26 жніўня на стадыёне «Дынама». Нагадаем, зараз гуртом «Ляпіс Трубяцкі» зацікавілася Генпракуратура Расеі. Франтмэна калектыву падазраюць у антырасейскай прапагандзе і хочуць пакараць за лозунг «Слава Украіне!».

### Аркестр Міхаіла Фінберга да Дня Перамогі падрыхтаваў праграму па-беларуску

Аркестр дасць вялікі канцэрт у зоне гасціннасці каля сталічнага Палаца спорту 10 мая. Праграма «За нашу Перамогу!» складзеная не толькі з самых вядомых песень ваенных гадоў. У яе ўключаныя таксама забытыя кампазіцыі, якія даўно не выконваліся, у сучаснай апрацоўцы. Пасля тура па Мінскай вобласці і выступу ў сталіцы аркестр дасць яшчэ шэраг канцэртаў у розных гарадах рэспублікі.

**БелТА**

# Бацюшкі-каліноўцы

Праваслаўныя святары змагаліся супраць Расіі ў паўстанні 1863. Піша **Васіль Герасімчык**.

З часу Мураўёва-Вешальніка ў Расейскай Імперыі закладалася ідэя, што праваслаўнае насельніцтва Беларусі ставілася да паўстання 1863 рэзка негатыўна. Прарасійскія гісторыкі малявалі паўстанне як справу выключна шляхты ды ксяндзоў, не падтрыманую праваслаўным сялянствам. Між тым, гэта аспрэчваюць нават удзельнікі здушэння паўстання.

Расейскі палкоўнік Аляксандр Гейнс, які змагаўся супраць паўстанцаў у бітвах пад Коцкам, пры Калішы і Сямятычах, у асабістым лісце да свайго сябра Канстанціна Каўфмана, аднаго з наступнікаў Міхаіла Мураўёва на чале Паўночна-Заходняга краю, пісаў: афіцыйныя данясенні замоўчваюць факты «зацятай абыякавасці да нас сялян ва ўвесь час барацьбы». «Гэта абыякавасць ішла так далёка, што... многія рускія (г.зн. праваслаўныя — Рэд.) сяляне бралі ўдзел у паўстанні». А ў маі 1863-га, напярэдадні Мілавідскай бітвы ў Слонімскім павеце, «сяляне цэлымі станамі прымалі праваслаўную прысягу на вернасць мяцяжу...».


Апошнія жывыя паўстанцы 1863-га. 1932 год.

Праваслаўных сялян з самага пачатку барацьбы было нямала ў паўстанцкіх атрадах Беласточчыны, яны ўдзельнічалі ў захопе горада Сураж і бітве пад Сямятычамі. У атрадзе Старжынскага ваяваў 18-гадовы Казлоўскі Шымон Якубаў з вёскі Жаўткі (Беластоцкі павет). Касінерам у атрадзе Святлінскага (Перуна) быў 25-гадовы Талочка Саварыл Аўгусцінаў з вёскі Чэхі, у атрадзе Дзікоўскага два месяцы правёў 17-гадовы Дземянчык Маркель Ільіч з вёскі Лысы (абодва — Бельскі павет). З Студнякоў Сакольскага павета адразу некалькі сялян пайшлі ў атрад Духінскага, у тым ліку 18-гадовы Сінкевіч Васіль Мацееў, які таксама змагаўся пад кіраўніцтвам Улодака і Урублеўскага.

На Гродзеншчыне паспяховы напад атрада падпалкоўніка Аляксандра Лянкевіча на кватэру лясніцтва ў Азёрах стаў для жыхароў мястэчка і ваколічных вёсак сігналам да пачатку барацьбы. 36 добраахвотнікаў пры пяці стрэльбах атрымалі падмацаванне з амаль сотні новых паўстанцаў, сярод якіх было шмат праваслаўных. Адзін з іх — 17-гадовы панскі батрак Кучынскі Міхаіл Аляксееў з вёскі Талочкі — у сваіх паказаннях пасля амаль пяці месяцаў змагання адзначыў: «Мэтаю майго паступлення ў атрад было толькі тое, што абяцалі даваць грошы і вольнасць».

Паколькі Лянкевіч лічыў, што кожны чалавек мае права змагацца за свабоду, стрэльбы атрымалі нават зусім маладыя хлопцы, як 16-гадовы Кашэтук Адам Восіпаў з вёскі Гліняны і Аўсейнікаў Міхаіл Аўгусцінаў з вёскі Галавачы. Аднак ужо 4 мая на Святых Балотах у бітве супраць 2 рот царскай пяхоты і 30 казакоў на чале з падпаручнікам Мантойфелем паўстанцы былі разбітыя.

Аб вайсковых здольнасцях паўстанцаў 30-гадовы праваслаўны селянін Бартанчук Антон Андрэеў з вёскі Гуціцы сведчыў: Лянкевіч «даў мне старое ружжо, я, прабыўшы некалькі дзён, быў пастаўлены на пікет. І калі я стаў баявым ружжом гуляцца, але, не ведаючы, як з ружжом абыходзіцца, неспадзявана выстраліў, і ружжо разарвалося. З ім вярнуўся ў атрад, і ўжо ружжо было ад мяне забранае, а прыстаўлены да абоза, для пераносу цяжару і ўвесь час насіў на сабе валізу з аптэчкамі, медыкаментамі. А так, пры атрадзе знаходзячыся, бадзяжыў па розных невядомых мне лясах. І аднойчы, калі атрад быў нагнаны расейскімі войскамі і збег, быў нагнаны расейскімі двума салдатамі, з якіх адзін мяне параніў штыком у правае плячо, то я, адчуўшы боль, валізу, якую нёс, кінуў і сам ратаваўся ўцёкамі, і, праходзячы па лесе, сустрэўся з атрадамі Гідва і Астрогі, якія мяне ў сувязі з атрыманай ранаю ў атрад не ўзялі».

Хуткая параза спыніла шырокі ўздым Гродзенскага павета. Аднак многія з тых, хто далучыўся да ліку змагароў, ужо не складалі збоі да самага канца, як праваслаўны 21-гадовы садоўнік Сямёнаўскі Іван Міхайлаў з маёнтка Віланаў. Пасля паражэння атрада Лянкевіча Сямёнаўскі пайшоў да Раматоўскага (Вавер) у Аўгустоўскіх лясах. Затым ён дзейнічаў у атрадах Гласкі, Калышкі і Клімкевіча. Стаў сведкам сялянскай дапамогі паўстанцам харчаваннем, указаннямі дарогі, паведамленнямі аб набліжэнні царскіх войскаў. Сямёнаўскі бачыў павешанне двух сялян-даносчыкаў ды аднаго немца за спробу збегчы з атрада.

Падтрымлівала паўстанне і частка праваслаўнага духавенства ў Беларусі, 14 прадстаўнікоў якога за гэта былі рэпрэсаваныя. У атрадзе Каржанеўскага дзейнічаў 42-гадовы манах Супрасльскага манастыра Феадосій Дымінскі. Са святарскай сям'і, ён у 1847 паступіў у Віленскі Духаў манастыр пад імем Іосіфа, дзе быў паслушнікам. Праз пяць гадоў, пастрыжаны ў манахі і названы Феадосіем, жыў у некалькіх манастырах Літвы, пакуль у лютым 1859 не быў пераведзены ў Супрасль. Адтуль у жніўні 1863 атрымаў перавод у Жыровіцкі манастыр, падарожнічаючы куды і трапіў у паўстанцкі атрад.

Да паўстання заклікаў 43-гадовы праваслаўны святар Мікалай Мароз, які служыў у Лапаціне пад Пінскам. Пасля набажэнства ён збіраў у сябе на кватэры праваслаўную шляхту з ваколіц вёскі Колбы, чытаў ёй маніфест паўстанцкага ўрада і ўгаворваў далучацца да атрадаў. Калі ж шляхта не згадзілася, сказаў: «За гэта можна атрымаць і кулю ў лоб». Спрабаваў айцец Мікалай пераканаць і свайго дзяка Пракаповіча: «Няма чаго баяцца паўстанцаў — я і сябе, і вас змагу абараніць». На Мароза ў паліцыю данёс святар Страховіч з суседніх Місяціч, з якім у айца Мікалая былі не надта цёплыя адносіны. У выніку па патрабаванні Мураўёва Сінод пазбавіў Мароза духоўнага звання, пасля чаго той быў асуджаны на 10 гадоў катаржных прац у крэпасцях.

У адрозненне ад пінскай шляхты, якую айцу Марозу не ўдалося загітаваць да ўдзелу ў паўстанні, у суседняй Слонімшчыне такія выпадкі сустракаліся. 21-гадовы праваслаўны дваранін Іпаліт Карэцінскі, які вучыў сялянскіх дзяцей у ваколіцах мястэчка Быцень, у маі 1863 далучыўся да атрада Францішка Юндзіла і 3 чэрвеня ўзяў удзел у бітве пад Мілавідамі — самым вядомым у Беларусі ўзброеным сутыкненні паміж паўстанцамі і царскім войскам.

У Мілавідскай бітве праваслаўныя зрабіліся значнай часткай паўстанцкага войска. Так, у Слонімскім атрадзе іх была траціна. Амаль усё дарослае мужчынскае насельніцтва сучаснага цэнтра праваслаўя ў Беларусі — мястэчка Жыровічы — падалося ў паўстанцы разам з чатырма духоўнымі асобамі Жыровіцкага манастыра, якія сталі касінерамі і пазней далучыліся да атрада Валерыя Урублеўскага. Сярод іх — 19-гадовы Іван Шышко з вёскі Добрая Воля Ваўкавыскага павета, што служыў пры жыровіцкім архімандрыце.

Уваходзілі праваслаўныя сяляне і ў іншыя атрады, сабраныя ў паўстанцкім лагеры на мяжы Гродзенскай і Мінскай губерняў. Сярод іх — 27-гадовы ўдзельнік атрада Лянкевіча Міхаіл Семянчук з вёскі Шчэчыцы (сёння — Мастоўскі раён). У сваіх паказаннях, як і большасць паўстанцаў, для захавання ўласнага жыцця, ён гаварыў пра прымусовае далучэнне да атрада, у той жа час пазначыўшы: «У шайку вярбоўшчыкамі людзей дастаўляема не было, але ўсялякі з'яўляўся добраахвотна». М.Семянчук быў узброены аднаствольным ружжом і пісталетам. Пераважная ж большасць сялян з'яўлялася касінерамі і мела двувострыя косы з крукам у нізе ляза, насаджаныя на дрэўка і абматаныя вакол яго дротам, зняты́м з тэлеграфнай лініі.

Кіраўніком адной з частак касінераў у Мілавідскай бітве быў 20-гадовы праваслаўны мешчанін Аляксандр Унгэбаўэр, які да паўстання працаваў цеслем у родным Навагрудку. Даведаўшыся пра адыход жыхароў горада ў Налібоцкія лясы, добраахвотна падаўся туды разам з братам, каб далучыцца да атрада Вітольда Міладоўскага і ксяндза Феліцыяна Лукашэвіча. Удзельнічаў у сутычках пад Сяльцом, Крывошынам, Ігнатавам і Львоўшчынай. Па загадзе Міладоўскага кіраваў павешаннем селяніна, падазраванага ў шпіёнстве на карысць расейцаў. Сам Міладоўскі, які выдаў імёны ўдзельнікаў той акцыі ды іншых паўстанцаў, застаўся жывы. У адрозненне ад схопленага Унгэбаўэра, якога расстралялі ў Навагрудку 20 студзеня 1864.

Тады ж на пляцы за горадам расейцы расстралялі і 22-гадовага праваслаўнага мешчаніна Уладзіслава Смыслава з Навагрудка, які да сыходу ў атрад працаваў фельчарам у Крошыне, на радзіме паэта Паўлюка Багрыма. У атрадзе Міладоўскага Смыслаў даглядаў параненых, але запляміў сябе ўдзелам у павешанні селяніна, здзейсненым групай паўстанцаў на чале з Унгэбаўэрам. Генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў адхіліў рэкамендацыю суда аб замене смяротнага пакарання ссылкай у катаргу.

Ні праваслаўнае веравызнанне, ні юны век не былі перашкодаю ў вынясенні жорсткіх пакаранняў за ўдзел у Мілавідскай бітве, у якой расейцы пацярпелі паразу. У Сібір былі адпраўлены нават 16-гадовы Лявон Дудзіноўскі з Гавінавічаў і 17-гадовы Іосіф Мушынскі з Альбярціна.

Да паўстанцаў далучаліся і праваслаўныя расейцы, як у выпадку афіцэраў з Новагерманландскага палка: прапаршчыкі Рэмішэўскі і Ельчанінаў перайшлі ў мінскі атрад студэнта Трусава. Пасля паразы яны здолелі эміграваць у Парыж і сталі вучнямі гадзіннікавых спраў майстра.

Нават гэтыя некалькі прыкладаў паказваюць, што думка, быццам у змаганні 1863—1864 паўстанцы былі выключна каталікамі, а праваслаўныя выступалі толькі на баку расейскіх уладаў, з'яўляецца не проста памылковай, але і шкоднай для разумення нашай гісторыі. Насамрэч, як сярод тых, хто падтрымліваў расейцаў, выдаваў паўстанцаў, пісаў даносы, было шмат каталікоў, так і сярод паўстанцаў было багата праваслаўных, якія ўдзельнічалі ў бітвах, паказвалі дарогу і перадавалі інфармацыю пра перамяшчэнне царскіх войскаў, хавалі ў сваіх хатах параненых, кармілі іх. Прычым лік праваслаўных паўстанцаў у Беларусі ішоў на сотні, а магчыма, і на тысячы.

# На дарозе

Піша **Юлія Мароз**.

А напачатку ж ніхто не ўспрымае такія сітуацыі сур'ёзна. Ну закладзена ў генах жаданне ваяваць, што тут зробіш! А розныя гульні, камп'ютарныя, лялечныя і свежапаветраныя, толькі падтрымліваюць гэтую прагу крыві.

— О, хутка весела будзе! — ржалі пару месяцаў таму мае хлопцы-суседзі. — Украіна паднялася! І расіяне маўчаць не будуць, зрушаць сваіх з тронаў. Мо і мы паднімемся?! І будзе Трэцяя сусветная.

**Юлія Мароз**
нар. у 1994 у Карэлічах. Студэнтка Лінгвістычнага ўніверсітэта. Піша з 9-гадовага веку.

— Ха, ну, канечне: і зрушаць, і ўзнімемся... Ды ніфіга! — распаляўся хлапец з другога паверха. — Шчэ Расія — магчыма. А мы... А што мы? Сядзім на цвіку, дый так і трэба. Навошта ісці шукаць мяккае канапы?

І працягваў пасля хвіліннай паўзы.

— Ці вы бачылі, як гарадскія галубы выпіраюцца на дарогу і ідуць перад аўтобусам? І-дуць. Ну, крыху спешна. Але нават не бягуць і тым больш не ляцяць. А вяскововыя не сталі б чакаць, калі кола прыцісне хвост, а там і цалкам зацягне і раздушыць.

Мы пілі шампань і гутарылі пра Майдан, як пра нейкае шоу, што гастралюе па Усходняй Еўропе і хутка прыедзе ў Мінск. Але можа і не заехаць. Толькі, кажуць, захапляльны экшн. З фаершоу, бойкамі, крывёй і рыцарскай доблесцю. Карацей, «весела».

Пазней, праз месяц дзесьці, хлапцы ізноў смяяліся і рабілі стаўкі: пачнецца вайна ці Абама здолее паўплываць на адзінароскі тандэм. А можа, і не Абама, а хтосьці іншы. Каб толькі ўціхамірыліся.

А мы з сяброўкай, моўчкі седзячы побач, сціскалі ў руках кубкі з гарбатай і плакалі, не міргаючы, гледзячы перад сабой. Маючы родзічаў ва Украіне, мы бачылі карціну бліжэй і натуральней. Без масінфармацыйнага тлушчу. У нас ужо пачалося адчуванне непапраўнага. Мы ўжо бачылі не прыезд шапіто, а падзеі, якія разносяць жыцці вялікай колькасці людзей. Банальнасць, скузі. Але яе переварванне ў нашай свядомасці нагадвае апендыцыт: дае знаць пра сябе толькі пры запаленні. І калі сцішаць, не звяртаць на яго ўвагі, то потым яно выбухае і расцякаецца па думках. Запаўняючы цябе ўсяго. І адмыць цяжка. Таму часам такі выбух сканчваецца смерцю.

Выкладчыца ўсё кажа, што тым не менш не варта аддаваць гэтым развагам усе сілы. Як было ў гісторы: вайна ішла, людзі паміралі, гарады вынішчаліся. Але людзі працавалі, вучыліся, верылі ў лепшае, нараджалі новых людзей, аднаўлялі з нуля разваліны.

Але ўсе гэтыя ўгаворванні не выводзяць з галавы факта, што голуб, патрапіўшы на дарогу, нават калі ўзляціць, наўрад ці пазбегне непрыемнасцяў.

# Вялікая Таямніца дажджавых чарвякоў

**Аксана Цімашэнка**. Прыпавесці.

### Павольная зіма

Ледавік нарэшце адступіў. Пасля амаль векавога сну зямля прагна задыхала на поўныя грудзі. Нясмелае сонца ласкава і пяшчотна кідала промні на першыя кволыя парасткі, якія радасна прабіваліся скрозь яшчэ халодную, але ўрадлівую глебу. Паветра зазвінела птушынымі спевамі, дзіўнымі, мілагучнымі і адначасова нязвыклымі, хоць яны і былі спрадвечнымі на гэтай зямлі. Ледавік адступіў, а з ім адступіў і пастаянны страх перад ім.

Раптоўная вясна ўшчэнт сцёрла нават успамін пра той жудасны час. Усе позіркі былі скіраваны толькі да сонца, якое ж, вядома, слепіць вочы, калі глядзець толькі на яго.

Мабыць, таму ніхто і не заўважыў, калі на зямлю ўпала першая сняжынка. За ёй другая, трэцяя... Хто будзе звяртаць увагу на нейкія сняжынкі, калі ўсім вядома, што страшэнны ледавік адступіў і больш ніколі не вернецца. Мабыць, таму ніхто і не занепакоўся, што на нясмелае сонца ўсё часцей і часцей напаўзаюць лёгкія хмурынкі, а па начах выпадковыя лужыны зацягваюцца коркай тонкага, празрыстага лёду.

**Аксана Цімашэнка**
настаўніца, а цяпер хатняя гаспадыня. Жыве ў Мінску.

А сняжынкі ўжо не падалі па адной, а сыпаліся на зямлю жменямі. Па начах рабілася так холадна, што замярзалі не толькі лужыны, а нават ручаінкі. Ды цяпла нясмелага сонца яшчэ хапала, каб растапіць іх. Хто-ніхто зважаў на гэтыя трывожныя змены, пачынаў гаварыць аб іх уголас, ды большасць, як вядзецца, толькі круціла пальцам ля скроні, маўляў, чаго панікуеш — ледавік адступіў.

Але сіверны подых невядомага рабіўся ўсё мацнейшым. Першымі гэта адчулі на сабе птушкі, што спявалі такія родныя, чароўныя і мілагучныя песні. Яны адразу змоўклі і пахаваліся, некаторыя з іх загінулі ад лютага холаду, а частка наогул адляцела на чужыну, туды, дзе было проста цёпла і не па-хатняму ўтульна. Услед за птушкамі зніклі і маладзенькія парасткі, што абяцалі даць багаты ўраджай.

Усё радзей выглядала нясмелае сонца з-за аблокаў, і нарэшце на яго напаўзла такая вялізная, такая жудасная і чорная хмара, што ласкавыя сонечныя промні толькі зрэдку маглі прабіцца праз яе тоўшчу, каб пасланць на зямлю хоць крыху свайго цяпла.

І вось калі зноў на зямлі запанавалі нясцерпны холад і цемра, людзі занепакоіліся. Прыход новага ледавіка страшэнна палохаў іх, бо іх дзеці хоць і нядоўга, але ўжо бачылі сонца, бо ледзяны панцыр, што так невыносна скоўваў іх кволыя целы, нарэшце растаў, і цяпер усёй сваёй істотай яны маглі адчуваць багацце і разнастайнасць гэтага свету, толькі цяпер яны пачалі жыць.

Людзі не ведалі, што ледавік больш ніколі не вернецца. Гэта проста яго працяг, доўгі, як павольная зіма. І каб перамагчы гэту павольную зіму, трэба бліжэй прыціскацца адзін да аднаго, гуртавацца разам супраць зімовых памагатых і самім выпраменьваць тое сонечнае цяпло, што назаўсёды растопіць холад і лёд гэтай зімы. І галоўнае — не баяцца. Але людзі пра гэта яшчэ не ведалі.

### Вялікая Таямніца дажджавых чарвякоў

Жыў-быў чарвяк. І быў у яго гарод вялікі з зямлёю тлустай. Жыў сабе чарвяк, не тужыў, глебу еў і таўсцеў патроху. І меў ён такое горла шырокае і такі апетыт, што рос і таўсцеў значна скарэй за іншых сваіх суродзічаў. Агледзелі гэта іншыя чарвякі і вырашылі абраць яго сабе за галоўнага, бо ў тых чарвякоў памер і таўшчыня лічыліся праявай розуму незвычайнага.

І зажыў сабе наш чарвяк абранцам народным: сачыў за гародамі ўсімі і камандаваў, дзе каму хады рыць і глебай сілкавацца. А калі ў якім месцы зямля надта смачная была, дык спанатрыў сабе яе забіраць, а гаспадароўчарвякоў выцісняў адтуль бязлітасна. Абурыліся чарвякі несправядлівасцю такой і захацелі скінуць злодзея паганага, а на яго месца новага важака абраць.

Як даведаўся пра гэта наш чарвяк — занерваваўся моцна, ледзь апетыт свой не страціў. Стаў думу думаць, як бы гэта яму падаўжэй на пасадзе высокай затрымацца. І так прыкідваў ён мозгам брушным, і гэтак, і, каб лепш думалася, стаў расцягвацца ва ўсю даўжыню сваю — плошча мозгу павялічваецца, хітрэйшая думка прыдумваецца. І так ён пнуўся з усяе моцы, што — чпок! — і парваўся. Роўна на дзве палавінкі. Кланіраваўся, карацей. І вось выйшлі чарвяк са сваім клонам да народу і кажуць: «Людзі! То бок чэрві! Цяпер па справядлівасці ўсё будзе: па чарзе будзем вамі кіраваць». Зарадаваліся чэрві дужа і папаўзлі далей сваю зямлю грызці.

Так і цякло жыццё ў той чарвяковай краіне, пакуль не даведаўся двухпаловы чарвяк, што недзе ёсць зямля смачнейшая і тлусцейшая за ягоную. І захацелася яму яе захапаць. Але ж без дай прычыны не палезеш, трэба мэта высакародная. І давялі тады ўсім чарвякам простым, што яны, Богам абраныя, місію святую выконваюць, бо, маўляў, недзе браты-чарвякі не так у зямлі калупаюцца.

Натхніўся чарвяковы натоўп на подзвігі і рушыў у суседні гарод, што за плотам высокім быў. А двухпаловы чарвяк наперадзе паўзе. Прыпаўзлі хеўраю нарэшце, у зямлю тую скваліна ўгрызаюцца ды чарвякам-суседзям даводзяць, што яны іх, братоў сваіх, ратуюць. Так і згрызлі б усё дашчэнту, калі б зямля чужая ўпоперак горла ім не стала. Ледзь ачомаліся ад бяды такой ды ні з чым дадому павярнулі.

А двухпаловы чарвяк так зямлі чужой у глотку напхаўся, што курчам яго скруціла і на паверхню выгнала. А там сонца гарачае. Разбух двухпаловы ад спёкі, ніяк у нару назад прасунуцца не можа. Так і спёкся, як на патэльні. А ўсё таму, што забыўся на Вялікую Таямніцу чарвякоў усёй зямлі: «Калі хочаш жыць у шчасці і згодзе — сядзі ў сваім агародзе».

## ФУТБОЛ

### Тур 7

**10—11 мая** адбудуцца матчы чарговага тура чэмпіянату Беларусі па футболе. **У суботу** гуляюць:
«Гомель» — «Дняпро» (Магілёў);
«Дынама» (Брэст) — «Дынама» (Мінск);
БАТЭ (Барысаў) — «Слуцк».
**У нядзелю:**
«Белшына» (Бабруйск) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Шахцёр» (Салігорск) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Нёман» (Гродна) — «Мінск».

## ІМПРЭЗЫ

### Фестываль вулічных тэатраў



**Другі Мінскі форум вулічных тэатраў пройдзе 10—11 мая.** Уваход вольны. Фестываль пачнецца 10 мая а 13-й гадзіне карнавальным шэсцем ад гарадской ратушы да сцэнічных пляцовак у Верхнім горадзе. Пад адкрытым небам мінчукі змогуць пабачыць больш за 20 пастановак тэатраў з Беларусі, Польшчы, Расіі, Славеніі, Украіны.

### Прэміі імя Адамовіча і Багушэвіча

**13 мая а 19-й у кнігарні «логвінаЎ»** адбудзецца ўручэнне прэміяў імя Алеся Адамовіча і Францішка Багушэвіча. Вядоўца — Андрэй Хадановіч. Арганізатар мерапрыемства — Беларускі ПЭН-цэнтр. Уваход вольны.

### «Шкатулка пані Шыманоўскай»

**13 мая а 19-й гадзіне ў зале «Верхні горад»** адбудзецца канцэрт-спектакль «Шкатулка пані Шыманоўскай». У выкананні віяланчэлі, фартэпіяна, флейты прагучаць творы Міхала Клеафаса Агінскага, Марыі Шыманоўскай, Восіпа Казлоўскага, таксама рамансы, вершы, сцэнкі, танцы паланэз і мазурка, двубой пад музыку. Усе ўдзельнікі апранутыя ў гістарычныя строі пачатку XIX стагоддзя: бальныя сукенкі, свецкія фракі і ўланскія мундзіры.

## КАНЦЭРТЫ

### Дай дарогу!

**8 мая ў клубе «Re:public» (Прытыцкага, 62)** — вялікі сольны канцэрт брэсцкага гурту «Дай дарогу!». Пачатак а 19-й.

### Б.Г. і «Акварыум»

**8 мая ў канцэртнай зале «Мінск»** адбудзецца канцэрт культавага расійскага рок-музыкі Барыса Грабеншчыкова. Білеты — ад 210 да 850 тысяч.

### «Альтанка»

**14 мая ў клубе «Лісіная нара» (Каліноўскага, 32)** грае фольк-гурт «Альтанка». Пачатак а 19-й.

## ВЫСТАВЫ

### Сто год беларускага авангарду

**Па адрасе пр-т Пераможцаў, 14** дзейнічае выстава сучаснага мастацтва «Avant-gARTe. Ад квадрата да аб'екта», тут у адной экспазіцыі паслядоўна і поўна сабраныя творы беларускага авангарду, андэграўнду, нонканфармізму ад 1910-х па 1990-я гады. Такая маштабная выстава — спроба далучыць сучасных беларускіх аўтараў праз сувязь з авангардам XX стагоддзя да мастацкай прасторы еўрапейскай культуры.

### «Offside»

**Для ўдзельнікаў выставачна-дыскусійнага праекта «Offside»**, што разгарнуўся ў галерэі «Ў» (Незалежнасці, 37А), спорт становіцца зонай рэфлексіі. Якое месца спорт займае ў культурнай прасторы Беларусі — у мастацкіх, ідэалагічных і ўрбаністычных вымярэннях? У межах праекта мастакі закранаюць розныя аспекты спорту.

### «Back in BSSR / Зноў у БССР»

**У Музеі гісторыі Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** дзейнічае выстава «Back in BSSR / Зноў у БССР», аснову якой складаюць рарытэтныя плакаты 1940—80-х гадоў з калекцыі Беларускага саюза дызайнераў. На выставе таксама можна пабачыць арыгінальныя прадметы з савецкай штодзённасці: тэхніка, побытавыя рэчы, творы мастацтва. Акцэнт зроблены на таварах, зробленых менавіта ў БССР. Асобны раздзел прысвечаны савецкаму нефармату: стылягам, хіпі, бітнікам.

## ТЭАТРЫ

### 8 мая

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Пінская шляхта






**Макс Корж**
10 мая ў Футбольным манежы (пр. Пераможцаў, 20/2) адбудзецца канцэрт Макса Каржа. Білеты — 300 тысяч рублёў.

### 10 мая

**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Кот у ботах

### 11 мая

**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Оперы і балета** — Лебядзінае возера

### 12 мая

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Оперы і балета** — Лебядзінае возера

### 13 мая

**Беларускай драматургіі** — Раскіданае гняздо
**Оперы і балета** — Травіята
**Юнага гледача** — Пан міністар

### 14 мая

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Оперы і балета** — Шчаўкунок
**Юнага гледача** — Майго юнацтва крылы

## КІНО

### Двайное сальта

13-ты раён: Цагляныя асабнякі
Баявік, крымінальная драма
**Рэжысёр:** Каміль Дэламар
**У ролях:** Пол Уокер, Давід Бэль, RZA (Роберт Дыгз) Гучы Бой, Каталіна Дэніс, Аіша Іса, Карла Рота
Францыя, Канада, 90 хв.

2018 год, разгул злачыннасці. Асабліва небяспечны раён Дэтройта абнесены сцяной, там няма пастарункаў і школ, ён становіцца аплотам злачынцаў і наркадылераў. Мэр горада не задаволены такім становішчам, яму бачыцца, што лепш знішчыць раён разам з яго жыхарамі і пабудаваць нанова. У той жа час дэтэктыва пад прыкрыццём Дэміена засылаюць у 13-ты раён з заданнем знайсці новую нейтронную бомбу, якую зламыснікі скралі і схавалі там. Дапамагаць яму вымушаны Ліно, які добра ведае гэты раён.

Рымэйк французскага фільма «13-ты раён» (2004) з'яўляецца перазапускам праекта тымі ж стваральнікамі, сярод якіх аўтар сцэнара і прадзюсар Люк Бесон. Дзеянне перанесенае з Парыжа ў амерыканскі Дэтройт, а напарнікам сусветнага лідара паркур-руху Давіда Бэля (Ліно), зоркі папярэдніх частак, стаў Пол Уокер (Дэміен). Гэты акцёр і каскадзёр-гоншчык, вядомы па ўдзеле ў шматлікіх «Фарсажах», летась загінуў у аўтамабільнай аварыі, роль у гэтым фільме была для яго апошняй.

Ад арыгінала стужку найперш адрознівае наяўнасць брутальных боек, перастрэлак і гонак на аўто. Відаць, гэтымі абавязковымі атрыбутамі сучаснага баевіка стваральнікі хацелі прыцягнуць масавага гледача, але разам з тым фільм амаль згубіў прыемную асаблівасць арыгінала: большасць боек і відовішчных сцэн былі засняваныя на спрыце паркуршчыка Бэля і яго былога напарніка, майстра па ўсходніх адзінаборствах, каскадзёра Сірыла Рафаэлі.

**Настасся Уласава**



# Мастак, які хацеў угнаць самалёт у Парыж

4 мая памёр **Генадзь Хацкевіч**. Піша блогер Яўген Ліпковіч.

Апошні раз я яго бачыў за тры дні да смерці. Гена Хацкевіч ішоў папераўздзе, трохі накульгваючы на правую нагу.

— Ты ўваходзіш у канал, — Гена рабіў рух рукамі, нібы прасоўваючы прадмет, — цябе перакручвае, ты гэтага не заўважаеш — і выходзіш ужо на Марсе.

— Каналы, — працягваў ён, не даючы апамятацца, — тыя ж тунэлі, толькі верх зрабілі празрыстым. Калі бегчы па канале, выхад аказваецца зусім у іншым месцы. Так марсіяне перасяліліся на Зямлю.

Гена казаў роўным голасам і, здавалася, не сачыў за рэакцыяй сваёй ахвяры, але ўсе спробы збегчы імгненна блакаваў, мякка, настойліва, утрымліваючы суразмоўцу за рукаво.

Я ведаў Хацкевіча даўно, са студэнцтва. Часы тады былі душныя, а ў Генкі была маленечкая майстэрня, якую ён дзяліў з іншым мастаком. Гэтакі куток свабоды, дзе пад партвейн спрачаліся пра мастацтва і палітыку, не саромеючыся ў выразах і эпітэтах.

Нечакана ў наш Інстытут замежных моў прыехала на практыку група англійскіх студэнтаў, чалавек дваццаць. Яны жылі ў інтэрнаце, і хадзілі чуткі, што замежнікі прывезлі ў Мінск забароненую літаратуру. Афіцыйнага нагляду за імі не было, у вольны час брытанцы бегалі па кавярнях і барах, знаёміліся з дзяўчатамі. Хтосьці прыцягнуў іх у майстэрню да Хацкевіча, яна была ў келлі былога кляштара (цяпер у гэтым будынку папулярная ўстанова «Ля ратушы»).

Калі практыка скончылася, студэнты паселі ў цягнік, у вагоннае акно высунулася рука, і Хацкевічу працягнулі аб'ёмісты скрутак, загорнуты ў газетную паперу. Генка схапіў пакет і, не азіраючыся, прыпусціў чым далей ад перона. Яго прынялі на выхадзе з вакзала. У аддзяленні міліцыі з сумкі выцягнулі некалькі кавалкаў англійскай мыла, загорнутых у газетную паперу. На яго пляваліся, раўлі, тупалі ботамі, абяцалі саджаць жыццё, спрабавалі скласці пратакол, але, у рэшце рэшт, адпусцілі.

Ён выйшаў з нявіннай усмешкай: перфоманс удаўся.

У 1987 годзе ён паспрабаваў скрасці самалёт «Мінск—Растоў».

Я вельмі жыва ўяўляю, як Гена выклікае сцюардэсу, паказвае пакет, абгорнуты ў газетную паперу, з якога тырчаць два кавалкі дроту ад слухавак для «вокмана» (гэта такі касетны плэер, калісьці вельмі папулярны), і патрабуе ўзяць курс на Парыж.



**Генадзь Хацкевіч** (Хацкевіч-Мінскі, Хац-Мін) 1952—2014. Мастак. Нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся ў дзіцячай мастацкай студыі Сяргея Каткова (1962—1968), Мінскім мастацкім вучылішчы (1968—1972) у Алега Луцэвіча, Беларускім дзяржаўным тэатральна-мастацкім інстытуце на аддзяленні манументальна-дэкаратыўнага мастацтва (1976—1982, кіраўнік дыплома — Гаўрыла Вашчанка). Сваёй творчасцю зрабіў значны ўнёсак у беларускі авангардызм.

Самалёт заторгаўся, пілоты запыталі ў дыспетчараў далейшых указанняў і, калі зямля высветліла, што набыты білет зарэгістраваны на мастака, атрымалі загад трымацца ранейшага маршруту. У Растове Хацкевіча чакаў не спецназ, а санітары на «хуткай дапамозе». Выбухоўкі, вядома, не было знойдзена: зноў у газеце апынулася колькі брыкетаў гаспадарчага мыла.

А ў Мінску пачалі следства. У яго майстэрні правяліператрус, следчыя і эксперты чухалі патыліцы, спрабуючы зразумець Генкавы працы. Карціны былі вялікія, цікавыя, шматпланавыя. Гена неяк распавядаў, што хацеў бы ад статычнага жывапісу перайсці да мультыплікацыі. Прасторы, накладзеныя ім на палатно, павінны былі рухацца ва ўсіх вымярэннях, расці, пульсаваць, размнажацца...

Нас, чалавек пятнаццаць блізкіх знаёмых, выклікалі на допыт у транспартную пракуратуру БССР.

— Так, — пацвердзіў я следчаму, — можаце не сумнявацца — ён хворы. Дзе распіска?

Нечакана следчы выцягнуў са стала кнігу «У жніўні сорак чацвёртага», якую я калісьці падарыў Хацкевічу, і прачытаў дароўны надпіс:

«Густы натоўпу — каламута лозунгаў «П'янству — бой!»

Пільны будзь! Вораг Нават у ложку з табой».

— Арыгінальна, —сказаў ён са шматзначнай інтанацыяй, — вы самі напісалі?

— Так, дзе распіска? — настойваў я, робячы выгляд, што мяне кніга не датычыць. Яшчэ не хапала ўступаць з пракурорскімі ў літаратурныя разборкі.

Следчы вагаўся. Ён глядзеў то на мяне, то ў кнігу, потым зноў на мяне. Нарэшце, прыняў рашэнне: зачыніў Багамолава і працягнуў пратакол для подпісу.

Хацкевіча прызналі неадэкватным, этапавалі з Растова ў нашы Навінкі, нейкі час калолі, потым адпусцілі. Ён выйшаў і, практычна адразу, з'ехаў у Парыж.

З Францыі Гена вярнуўся перапоўнены ідэямі. Касмічныя дырыжаблі, падводныя цягнікі, сонечныя ровары, якія ляцяць скрозь радыяцыю, гіперпрасторавыя шафы, звышгукавыя скейтборды...

Некаторы час яго слухалі са здзіўленнем, нават адкрыўшы рот. Потым прывыклі. Потым сталі пераходзіць на другі бок вуліцы.

Яго на днях пахавалі. Ён памёр так і не зразумеўшы.

**charter97.org**

## Самотная Самойлава

Культавая **савецкая актрыса** дажыла ў невядомасці.

Сусветная слава прыйшла да Тацдяны Самойлавай у 1957 годзе, пасля фільма Міхаіла Калатозава «Ляцяць жураўлі», дзе яна выканала галоўную жаночую ролю. Фільм атрымаў галоўны прыз Канскага кінафестывалю, а актрысе дасталася спецыяльная прэмія фестывалю «Апельсінавае дрэва». Самойлава стала першай актрысай з СССР, якую ўзнагародзілі ў Канах.

«Ваенная» роля, прызнавалася яна, далася лёгка: Самойлава перажыла вайну, у дом, дзе яна жыла з бацькамі, трапіла фугасная бомба.

Кажуць, гераіня Самойлавай, Белка, «дзяўчынка, на якую вайна абрынулася нечакана», не спадабалася Мікіту Хрушчову — так яна выломвалася з вобраза савецкай жанчыны. Дый знешне яна, дачка польскай габрэйкі, не адпавядала эталону «рускай прыгажосці».

Канскі трыумф захінуў асабістую трагедыю: каб зняцца ў фільме, 24-гадовая Самойлава зрабіла нелегальны аборт. У яе меліся быць двайняты... Муж, славуты акцёр Васілій Ланавой, ёй гэтага не дараваў, яны разышліся.

Самойлава казала, што «іграць каханне» з былым мужам праблемы не склала: ёсць асабістае жыццё, а ёсць праца. А дзіця ёй удалося нарадзіць толькі праз 20 гадоў — з чацвёртым мужам. І з ім яны развіталіся, калі малому Дзмітрыю было два гады. Самойлава, якая ад 1976-га не мела вялікіх роляў у кіно, захварэла разладам, канцэртамі з паездамі, і сустрэчамі з гледачамі. Сын гадаваўся ў інтэрнаце, пасля ў бабулі. Пасталеўшы, ажаніўся з амерыканкай і з'ехаў у Штаты. Пасля памерла маці — і Самойлава засталася зусім адна. Падступілі



ўзроставыя хваробы, хадзілі чуткі пра алкагольную залежнасць і псіхічныя зрывы, ад адзіноты яна хадзіла ў маскоўскі Дом кіно, недалёка ад якога жыла, або выклікала «хуткую». Некалькі разоў Самойлава знікала — яе пасля знаходзілі ў маскоўскіх шпіталях. Яна трапіла ў рэанімацыю 4 мая — у дзень 80-годдзя, уначы яе не стала. «Магчыма, расплачваюся несыгранымі ролямі за раннюю славу», — казала яна.

**ІН**

## Набеліст без Нобеля

Памёр славуты польскі пісьменнік Тадэвуш Ружэвіч.

Яму было 92 гады. Ружэвіч найперш вядомы сваімі вершамі, але ён пісаў і прозу, і драматургію.

Ён нарадзіўся ў невялічкім горадзе Радамка ў Цэнтральнай Польшчы. Цікава, што ў дзень яго нараджэння праз места праязджаў Юзаф Пілсудскі. Браты Тадэвуша — Януш і Станіслаў — таксама сталі творцамі.

Друкаваўся з сямнаццаці гадоў. А ў часы вайны быў у партызанцы Арміі Краёвай. Ад 1968 да дня смерці жыў на Уроцлаве.

«Я нават не магу ўявіць, якой была б пасляваенная паэзія без вершаў Ружэвіча. Мы ўсе абавязаныя яму чымсьці, але не ўсе здольныя тое прызнаць», — пісала пра яго нобелеўская лаўрэатка Віслава Шымборска.



«Гігант літаратуры. Набеліст без Нобеля», — сказаў пра Ружэвіча міністр культуры Польшчы Богдан Здраеўскі.

Два гады таму кніга выбраных вершаў Ружэвіча «Без» выйшла па-беларуску, перакладчыцай выступіла Марына Казлоўская. Тадэвуш Ружэвіч сам адбіраў вершы да зборніка. Таксама на беларускую мову творы Ружэвіча перакладалі Максім Танк, Янка Брыль, Сяргей Кавалёў, Ціхан Чарнякевіч.

**ЗП**

## Памёр пісьменнік Уладзімір Дамашэвіч

Яму было было **86 гадоў**. Доўгі час ён загадваў аддзелам прозы часопіса «Маладосць».

Самы забаронены раман сучаснай беларускай літаратуры, «Камень з гары» Уладзіміра Дамашэвіча, цэнзура не дазваляла друкаваць гадоў дваццаць. Яго цэнтральная праблема — праблема помсты і справядлівасці, праблема сталінскіх катаў і ахвяраў, праблема адказнасці за злачынствы савецкай сістэмы супраць сваіх грамадзянаў,



была ў 1960-я гады галоўнай нявырашанай маральнай праблемай грамадства. Герой Дамашэвіча сам ажыццяўляе акт справядлівасці — забівае свайго ката. З яго славутага рамана вынікала думка, што помста — зусім не ірацыянальнае пачуццё і неэфектыўнае дзеянне, як часам лічаць. Помста — гэта не толькі адкладзеная справядлівасць за мінулыя злачынствы, гэта яшчэ выразны сігнал будучым катам розных гатункаў. Чалавек мае права дараваць, але таксама мае абавязак адпомсціць. Гэта — адзін з урокаў Уладзіміра Дамашэвіча, смелага, светлага, бескарыслівага, вельмі сімпатычнага чалавека.

**Аляксандр Лукашук, Радыё «Свабода»**

## Былы трэнер «Барселоны» памёр у 45 гадоў

На працягу двух гадоў Ціта Віланова вёў барацьбу з ракам калявухавай залозы.

Па заканчэнні мінулага сезону з-за праблем са здароўем ён вымушаны быў сысці з каталонскага клуба.

25 красавіка ў экстранным парадку ён быў дастаўлены ў шпіталь з-за пагаршэння стану здароўя, там яго і не стала. Разам з «Барселонай» жалобу абвесціла ўся футбольная Іспанія.

Віланова не быў вялікім



футбалістам, а вось трэнер з яго атрымаўся лепшы. Ён прывёў «Барселону» да перамогі ў чэмпіянаце Іспаніі сезона 2012—2013.

**ЗП**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Шчаслівыя футбалісты салігорскага «Шахцёра» фатаграфуюцца пасля перамогі ў Кубку Беларусі. «Гарнякі» з мінімальным лікам адужалі гродзенскі «Нёман». Адзін гол забіў украінец Арцём Старгародскі, забіваў ён з паламаным пальцам на назе. Траўму атрымаў яшчэ на першай хвіліне, але не звярнуў на тое ўвагу і дагуляў амаль да канца сустрэчы.**



**Традыцыйны «Чарнобыльскі шлях» 26 красавіка сабраў да тысячы ўдзельнікаў. Было шмат моладзі, якая несла расцяжкі, сцягі, банеры. А вось на мітынг праз амапаўскі нагляд людзі не пайшлі.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



**Джэніфер Лоўрэнс з «Галодных гульняў» назвалі самай сэксуальнай жанчынай свету. 23-гадовая акторка заняла першы радок у рэйтынгу, які кожны год складае мужчынскі часопіс FHM. Яна абышла Рыяну, Бьёнсэ і Скарлет Ёхансан.**



**У расійскім Новасібірску 1 мая ў дзясяты раз прайшло традыцыйнае касцюмаванае шэсце «Манстрацыя-2014» — гэткі парад пачвар.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Сепаратысты сцвярджаюць, што склады са зброяй самі на іх напалі і яны былі вымушаныя абараняцца.

* * *

Я настолькі мілы, што, калі прадаваў кацянят, два разы ледзь не купілі мяне.

* * *

90% квіткоў на канцэрты Стаса Міхайлава купляюцца на аліменты.

* * *

Сурдаперакладчык падчас канцэрта гурту «Ленінград» увесь час проста трымаў узнятым сярэдні палец.

* * *

Вядучы АНТ: «Вы далёкі ад хакея чалавек, але вы заўзяты балельшчык».

* * *

Жонка праводзіць мужа на працу:

– Усё ўзяў? Нічога не забыўся? Ключы, пропуск, грошы?

– Якія грошы?

– У сэнсе, кашалёк.

– А ну тады, канечне, узяў.

* * *

З паведамленняў СМІ: «Правы сектар» атруціў ваду ў Данецку — хто вып'е, становіцца бандэраўцам».

* * *

Я зноў паглядзеў у гэтыя вочы і прашаптаў: «Ты — самае дарагое, што ёсць у маім жыцці». Усміхнуўся. І адышоў ад люстэрка.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У вёсцы Стасевічы Бабруйскага павета** замужнія кабеты склікалі вялікую сходку замужніх кабет і пастанавілі рабіць старанні, каб пазакрываць ва ўсёй ваколіцы манапольկі і прыватныя шынкарні (піўныя, тракціры і інш.) Дзеля таго, што «бязмернае п'янства руйнуе сялянскую гаспадарку і шырыць буянства і дзікасць звычаёў». Гэтак напісалі ў сваёй пастанове стасевічаўскія бабы, і пастанову гэту падпісала 150 кабет.

**«НН». №18. 1914.**

**«Мы, партызаны, расчысцілі дарогу на Берлін».** Удзельнік партызанскага руху, доктар філасофскіх навук Мікола Крукоўскі: «Улада хоча паказаць, што нас вызваляла савецкая армія, у той час як яна нас тут саджала ў турмы! Мы, партызаны-беларусы, расчысцілі дарогу на Берлін. Сюды Чырвоная армія ўвайшла, як нож у масла. У Беларусі ніякіх вялікіх баёў не было, бо тэрыторыя на 60% была свабодная. І занадта вялікі гонар для НКВД казаць, што за гэтай установай пайшоў народ».

**«НН». №17. 2004.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.05.2014.
Замова №1980.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14017

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12